PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 35 (1998) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 28 ЖНІЎНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.



Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Георгій Станіслававіч Таразевіч.

*ГЕОРГІЙ СТАНІСЛАВАВІЧ ТАРАЗЕВІЧ нарадзіўся 17 ліпеня 1937 г. у вёсцы Слабада, што на Мядзельшчыне. Закончыў мясцовую 10-класную школу. У 1954 г. паступіў у Львоўскі Політэхнічны інстытут, на геадэзічны факультэт. Інстытут закончыў у 1959 г. з адзнакай. Напраўлены на працу ў Беларусь, у Заходняе аэрагеадэзічнае прадпрыемства. У 1963 г. напраўлены ў Якуцію ў якасці галоўнага інжынера экспедыцыі. Адначасова з працай займаўся навукай. У 1966 г. прайшоў па конкурсу на пасаду дацэнта Беларускага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту ў г. Гомелі, дзе быў выкладчыкам да 1969 г. У 1968 г. абараніў дысертацыю на навуковую ступень кандыдата тэхнічных навук.*

*З Гомеля перайшоў у Мінск на пасаду начальніка Заходняга аэрагеадэзічнага прадпрыемства, у якім працаваў да 1972 г.*

*У 1972 г. выбраны сакратаром райкома партыі г. Мінска, потым II сакратаром гаркома партыі, а ў 1979 г. выбраны старшынёй Мінскага савета народных дэпутатаў. У гэтай якасці працаваў чатыры гады. У 1983 г. выбраны I сакратаром Мінскага гаркома партыі.*

*У 1985 г. стаў старшынёй Вярхоўнага Савета БССР. Адначасова выбіраўся дэпутатам ВС БССР і ВС СССР, у тым ліку Саюзнага Вярхоўнага Савета апошняга склікання.*

*З 1989 па 1991 г. працаваў у Маскве. Узначаліў Камісію Вярхоўнага Савета СССР па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах. У апошнім саставе (пасля жнівеньскага путчу) узначаліў камісію па б'юджэце і фінансах.*

*Пасля Белавежскіх пагадненняў і распаду Саюза вярнуўся ў Мінск і ўзначаліў Беларускі камітэт па геадэзіі. Пасля назначаны I намеснікам міністра замежных спраў РБ. З 1994 г. — пасол Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча.*

**Інтэрв'ю з Георгіем Таразевічам чытайце на стар. 4.**

## ПРАМЫ ЭФІР З ПРЭЗІДЭНТАМ

10 жніўня ў прамым тэле- і радыёэфіры Аляксандр Лукашэнка, упершыню ў якасці прэзідэнта, звярнуўся да ўсяго народа. Мэтай выступлення была ацэнка сітуацыі ў краіне і заява наконт найбліжэйшых рашэнняў прэзідэнта і ўрада. Падчас прамога эфіру можна было тэлефанаваць у студыю і ставіць прэзідэнту пытанні, а госць студыі паабяцаў рэгулярна сустракацца з гледачамі і слухачамі — два разы ў месяц.

Усё выступленне амаль поўнасцю засяродзілася на эканоміцы краіны. Прэзідэнт выказаўся за радыкальныя рэформы і падкрэсліў, што гэтым мэтам служылі яго сустрэча з дырэктарам Міжнароднага валютнага фонду і візіт у Маскву. Паінфармаваў ён таксама, што ўсе скарумпаваныя чыноўнікі будуць прыцягнены да адказнасці згодна з законам. Ужо цяпер адбываюцца кадравыя змены ў верхніх эшалонах улады, ліквідуюцца дзяржкамітэты і ўпраўленні, якія былі падпарадкаваны прэм'ер-міністру, скарацілася з 36 на 24 колькасць міністэрстваў, змяншаецца лічба работнікаў дзяржаўнага апарату. Прэзідэнт пужнуў з экрана дзяржаўных чыноўнікаў усіх узроўняў, якія нічога добрага не робяць, а толькі прыглядаюцца пачынаннем каманды Лукашэнкі, чакаюць ягонага правалу і спадзяюцца, што неўзабаве ўсё вернецца на кругі свае. Прыгразіў ён, што супраць кожнай спробы сабатажу ягонай праграмы будуць прыняты суровыя меры.

Кіраўнік дзяржавы, назваўшы Беларусь „краінай льгот і прывілеяў", нагадаў, што цяпер усялякімі льготамі карыстаецца амаль 5 мільёнаў чалавек, што складае 50% усяго грамадства. Заявіў ён, што ў далейшым льготамі будуць карыстацца ветэраны, але адбярэ прывілеі ў высокіх пенсіянераў рэспубліканскага значэння. Напрыклад, у былых кіраўнікоў парламента і ўрада, за якімі пажыццёва былі замацаваны дзяржаўныя дачы, ахова, машыны, санаторыі, пенсія роўная 70% актуальнай зарплаты на раней займаемай пасадзе. Ужо цяпер зменшыў ён колькасць аўтамашын у гаражах Савета Міністраў — з 400 на 90.

Калі першая частка выступлення, несумненна, выклікала прыхільнасць грамадзян да першых крокаў прэзідэнта, дык другая была менш радаснай. Аляксандр Лукашэнка заявіў, што першым этапам рэформ будзе ўвядзенне свабодных цэн на артыкулы і тавары — у першую чаргу на хлеб і малако. Зараз у краіне склалася такая сітуацыя, што цэны на харчовыя прадукты ў дзесяткі разоў таннейшыя, чым у суседзяў па СНД і цераз празрыстыя граніцы вывозяцца яны карабейнікамі ў масавых колькасцях на ўсход. З-за адносна высокай цаны камбікармоў хлеб скарыстоўваюць як корм для жывёлы. Нізкія цэны не спрыяюць таксама працэсу аб'яднання эканамічных сістэм Беларусі і Расеі. Калі б аб'яднаць іх зараз, выклікала б гэта шалёную інфляцыю ў Беларусі. Прэзідэнт паясніў таксама, што цяперашняя датацыя для вытворчасці будзе заменена кампенсацыяй для найбяднейшых слаёў грамадства і для ўсіх дзяцей.

Аляксандр Лукашэнка мяркуе, што пры грамадскай падтрымцы на праця-

*Працяг на стар. 2*

## БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫН У ГАЙНАЎЦЫ

7 жніўня ў Гайнаўцы адбыўся беларускі фэстын. Мерапрыемства пачалося а 14 гадзіне ў гарадскім амфітэатры. З самага пачатку слухачоў было няшмат. Усе яны займалі месцы ў цяністым сектары. Аднак у хуткім часе ўсе лаўкі былі ўжо перапоўнены а побач тлумна стаялі жыхары Гайнаўкі. Надвор'е было спякотнае і санлівае.

— Ці вам не горача ў гэтых народных вопратках? — пыталіся лёгкаапрануты паклоннікі Гайнаўскага гарадскога хору.

— Мы сёння будзем выступаць у кашулях (традыцыйна апранаюць яны яшчэ і світкі), — тлумачылі мужчыны. Жара іх не перамагла. Маршавая песня „Ідуць жаўнеры-беларусы" ў выкананні мужчын Гайнаўскага хору гучыць бойка і пакідае непаўторныя ўражанні. На поспех усе харысты цяжка працуюць. Тры гадзіны ў тыдзень вядуцца рэпетыцыі. Варта адзначыць, што рэпертуар Гайнаўскага хору заў-сёды свежы і старанна падабраны.

Фэстын адкрыў Міхал Голуб, гайнаўскі дзеяч БГКТ, карэспандэнт „Нівы". Прывітаў ён улады, гасцей і публіку. Далей з прамовай выступіў старшыня ГП БГКТ Янка Сычэўскі. Звярнуўся ён да публікі словамі Францішка Багушэвіча: „Не пакідайце мовы сваёй роднай, каб не ўмерлі". Гайнаўскія беларусы, наогул, сваю родную мову ведаюць і калі трэба, ёю карыстаюцца. Іншая справа, што ў той жа Гайнаўцы цяжка сустрэць беларускамоўнае дзіця. Сёння гэтыя шаблонна апалячаныя дзеткі як ніхто цешыліся фэстынам. Незлічоная колькасць малышоў гуляла, брыкала, падпявала пад музыку і рытм, якія плылі са сцэны.

—Ty, Wiera, byłaś już w naszym białoruskim liceum, mówią, że takie nowoczesne.

— Nie, Nadziu, jeszcze nie byłam, ale chętnie bym tam się wybrała, — нейк кантэкстуальна вялі размову гайнаўскія беларускі. Нельга было быць абыякавым. Калі на сцэну выйшлі спявачкі з „Цаглінак", павеяла мілагучная цеплыня ад беларускіх душ.

Уражанне рабілі госці — суродзічы з Палесся. У калектыве з вёскі Залессе Кобрынскага раёна спявае 19 чалавек.

— Спевакі ў нас усякіх прафесій — настаўнікі, даяркі, дарожнікі, будаўнікі. Усіх нас яднае любоў да песні. Калі людзі спяваюць, у нашым Залессі лягчэй жыць. А так, страшэнная спякота і засуха. Апошнім часам пад Кобрынам было 42 градусы цяпла. На палях ўсё засохла, выгарэла, — гаворыць Іван Іванавіч, — кіраўнік калектыву з Залесся.

Нягледзячы на страшэнныя вынікі жары, у адной з песень залескія спевакі праславілі „ўраджай і багацце сваёй шчаслівай краіны". Паводле савецкай манеры ў іх інтэрнацыянальны рэпертуар і спевакі хваліліся, што ў Арэшкаве маглі праспяваць польскія песні.

На фэстыне ў іх выкананні чароўна прагучалі палескія народныя песні. Цікава выступіў народны тэатр музыкі і гульні з Кобрына „Крынічка".

— Калі мы ехалі ў Польшчу, былі вымушаны стаяць цэлую ноч на граніцы. У канцы пачалі спяваць і танцаваць. Тады заўважылі нас сонныя мытнікі і спраўна нас адправілі, — расказваюць артысты з Кобрына. У суботу выступілі яны ў Дубінах са сцэнкай „Вяселле". Суродзічам спадабалася добрая атмасфера ды цёплы і гасцінны прыём дубінцаў. На вячэру ўсіх запрасіў солтыс вёскі Дубіны.

— У нас адна мова, такія самыя погляды на многія справы, песні і такія сувязі нам вельмі патрэбныя, — сказаў Іван Бакацюк — кіраўнік „Крынічкі".

Гайнаўская публіка горача адзначала воплескамі анекдоты тыпу:

— Мне адзін у Гайнаўцы сказаў, што я кемлівая, прыгожая, разумная, — кажа дзяўчына маці, а маці на тое:

— Ты больш ужо з ім не сустракайся.

*Працяг на стар. 8*

 

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Oderwanie od Rosji Ukrainy i Białorusi to to samo co powojenny podział Niemiec i podobnie jak ten ostatni nie wytrzyma próby historii — oświadczył Aleksander Sołżenicyn w wywiadzie telewizyjnym. Były radziecki dysydent konsekwentnie broni koncepcji Wielkiej Rosji, zbudowanej w oparciu na republikach słowiańskich i Kazachstanie.*

*(Rzeczpospolita, nr 183)*

Гаспадзін Салжаніцын заўсёды быў песімістам. Быў час, калі пісаў, што камунізм праваліцца праз 100—200 гадоў, цяпер піша і гаворыць, што расейскі імперыялізм мае яшчэ магчымасці глытануць тры суседнія краіны. Хацелася б сказаць: у вас столькі зямлі, сябры расейцы; зрабіце вы ў сябе парадак!

* * *

*Rosyjska mafia dosłownie okupuje Europę. Nikt nie jest w stanie powstrzymać tej kryminalnej inwazji.*

*(Wprost, nr 32)*

У нямецкай прэсе пішуць, што мясцовыя мафіёзі, у параўнанні з гасцямі з усходу, выглядаюць, як хлопчыкі ў ка- роткіх штоніках.

* * *

*28 rannych i poturbowanych policjantów, zniszczony pawilon handlowy, podpalone samochody, wybite szyby, powyrywane znaki drogowe — to wstępny bilans pierwszego dnia Festiwalu Muzyków Rockowych w Jarocinie.*

*(Gazeta Współczesna, nr 151)*

Наступныя дні таксама не былі нуднымі, параненых разам было 70 паліцыянтаў. Так праходзіць фестываль з удзелам сапраўдных аматараў музыкі.

* * *

*Goście z zagranicy twierdzą, że cerkiew Św. Ducha na Antoniuku jest piękna, a kościół katolicki Św. Kazimierza przy Berlinga brzydki. Michael Aylward (Wielka Brytania): ta cerkiew, pomimo że jest sporym obiektem, ma w sobie jakąś lekkość, duchową godność. A kościół; to musi być smutne chodzić do takiego kościoła.*

*Roger Hall (USA — architekt): Cerkiew jest wyjątkowej urody. Kościół — wstyd powiedzieć — wyjątkowej brzydoty.*

*Marco Incascia (Włochy): U nas we Włoszech jest 150 tysięcy kościołów, niektóre stoją od tysiąca lat, ale nikt by chyba nie protestował, gdyby taki kościół został zburzony.*

*(Kurier Poranny, nr 161)*

Цікава, якія былі б адказы, калі б такое апытанне правесці сярод мясцовых палякаў. Думаем, што зусім адваротныя.

* * *

*Po zwycięstwie w meczu finałowym w Mistrzostwach Świata w Piłce Nożnej w Brazylii ostatecznie ustalono, że Pan Bóg był Brazylijczykiem.*

*(Wprost, nr 31)*

* * *

*We Włoszech kto ma telewizję — ten ma władzę, a następnie idzie siedzieć. W Polsce kolejność jest odwrotna: kto siedział — ten ma telewizję.*

*(Polityka, nr 32)*

* * *

*Świnie są bardzo wrażliwymi zwierzętami.*

*(Gazeta Współczesna nr 144)*

Асабліва двухногія.

* * *

*Карэянцы апынуліся ў глыбокім трансе: адышоў у свет іншы іх ідэйны натхняльнік і вялікі правадыр — таварыш Кім Ір Сен. Вялікае гора на тварах людзей цяжка сабе ўявіць. Краіна адпявала апошняга сталінскага пратэжэ, які знаходзіўся пры ўладзе з 1946 года.*

*(Звязда, н-р 152)*

Словы глыбокага вам спачування, браты карэянцы!

* * *

*У цяперашні гістарычны момант беларускі нацыяналізм павінен станавіцца ўсё больш агрэсіўным, дынамічным, магчыма нават у нейкай ступені захопніцкім,* — сказаў польскі пісьменнік Тадэвуш Канвіцкі.

*(Літаратура і мастацтва, н-р 29)*

* * *

*Zwolennicy kapitalizmu mają skłonność do zamykania oczu na to, co komunizm zrobił dobrego: na jego wysiłki dla zapobieżenia bezrobociu, troskę o ubogich. Również w realnym socjalizmie tkwilo źródło prawdy, —* сказаў папа Ян Павел II.

*(Wprost, nr 32)*

— Святыя словы! — гавораць людзі ў Польшчы.

* * *

*Piwo uchodziło w Polsce za napój nieelegancki i kojarzyło się z uliczną budką obleganą przez bandę pijaczków. W wielu domach po prostu nie wypadało pić piwa, bo nikt nie chciał być posądzony o gusty zbliżone do tych, jakie przejawia margines społeczny.*

*(Gazeta Współczesna, nr 144)*

Як сказаў даўно таму адзін разумны дзядзька: „Час мяняецца а мы разам з ім". Піва цяпер у вялікай пашане, амаль элітарны напітак, перш за ўсё з увагі на яго цану. А грамадскі „маргінэс" даўно ўжо перакінуўся на сіні каньячок.

* * *

*Hotel Bryza na Helu to prawdziwy pomnik udanej reformy. Przed 1989 r. był to dom PZPR, jeden z tych pensjonatów, w których wypoczywali towarzysze oraz towarzyszki, zmęczeni budowaniem socjalizmu. Dawny pensjonat właściciela PRL dziś, zgodnie z logiką kapitalizmu, należy do najbogatszego człowieka w Polsce. Wczasowicze są niewiele mniej bogaci jak właściciel Bryzy.*

*(Polityka, nr 32)*

А народ, так як і раней, можа толькі цераз шчыліну ў плоце паглядзець, як адпачывае „elyta".

## З мінулага тыдня

Падчас сустрэчы ў Луцку прэм'ер-міністры Польшчы і Украіны — **Вальдэмар Паўляк і Віталій Масол** абмеркавалі сітуацыю і перспектывы развіцця польска-украінскіх адносін, асабліва ў галіне гандлёва-гаспадарчага супрацоўніцтва. Кіраўнікі ўрадаў абедзвюх дзяржаў вылучылі наступныя прыярытэты яго развіцця: сельская гаспадарка і перапрацоўка сельскагаспадарчых прадуктаў, машынабудаванне, ваенная прамысловасць і яе кан-версія, фармацэўтыка, міжрэгіянальнае супрацоўніцтва, а таксама энергетыка, хімічная і металургічная прамысловасці. Абодва бакі выказалі патрэбу паскарэння працэсу стварэння сумеснага інвестыцыйна-гандлёвага банка і палічылі мэтазгодным адкрыццё чыгуначнага руху па маршруту Варшава — Холм — Ковель — Кіеў.

У днях 12—15 жніўня адбываліся шматлікія **ўрачыстасці ў гонар Войска Польскага**. У касцёлах і цэрквах адбыліся набажэнствы за Айчыну і Узброеныя Сілы РП. У Свята-Мікалаеўскім саборы ў Беластоку набажэнства служыў праваслаўны ардынарый Войска Польскага архіепіскап **Сава**. У набажэнстве апрача вернікаў, салдат і ветэранаў, удзельнічалі шэф Дэпартамента кадраў Міністэрства нацыянальнай абароны — генерал брыгады **Раман Гармоза** і шэф Артылерыі ВП — ген. брыг. **Чэслаў Бароўскі**, а таксама парламентарыі, прэзідэнт горада Беластока — **Анджэй Люса**, прадстаўнікі Каталіцкага касцёла. Вітаючы гасцей, Уладыка Сава падкрэсліў, што вайсковая служба з'яўляецца выяўленнем любові да Айчыны. Заклікаў ён вернікаў, каб у малітвах прасілі Бога блаславенства для Войска Польскага. У пропаведзі а. падпалкоўнік праф. **Мар'ян Бэндза** гаварыў аб свяце Успення Прасвятой Багародзіцы і аб задачах Праваслаўнага палявога ардынарыята. Пасля багаслужбы ген. Раман Гармоза **ўзнагародзіў архіепіскапа Саву медалём „За заслугі для абароннасці краіны"**, а хор заспяваў для прадстаўнікоў Войска Польскага песню „Многае лета".

**Адбылося VIII Агульнапольскае пешае паломніцтва на Святую Гару Грабарку.** Паўтары тысячы паломнікаў з Польшчы і Беларусі прыйшлі ў святое месца напярэдадні свята Праабражэння Гасподняга.

**Прадстаўнікі Саюза палякаў Беларусі** наведалі Беласток, дзе сустрэліся з кіраўнікамі адміністрацыйных і культурных устаноў. У ходзе перамоў абмяркоўваліся магчымасці пашырэння супрацоўніцтва ў галіне культуры і павелічэння дапамогі Саюзу палякаў. Гродзенскія госці зацікаўлены ў прафесійнай апецы над рознага тыпу калектывамі (на Гродзеншчыне каля трыццаці польскіх калектываў) і культурнымі ўстановамі ды ў кансультацыях інструктараў.

**У 51 гадавіну ліквідацыі гета ў Беластоку** ваявода **Станіслаў Пруціс** і прэзідэнт горада **Анджэй Люса** ўсклалі кветкі да абеліска ў гонар вынішчаных немцамі беластоцкіх яўрэяў. З ліку шматтысячнай яўрэйскай грамадскасці Беластока, якую гітлераўцы зачынілі ў гета, вайну перажылі 259 чалавек, а сёння ў Беластоку жыве толькі некалькі сведкаў гэтых жудасных падзей.

**Каля 67% жыхароў Беластока маюць у кватэрах тэлефоны**, а ва ўсім ваяводстве зарэгістравана 105 тысяч абанентаў. У 1993 годзе беластачане правялі 27 мільёнаў размоў у аўтаматычным руху і амаль 3 млн. размоў заказаных у тэлефаністкі.

**У Радаме нацыянальныя зборныя па футболу Польшчы і Беларусі** правялі міжнародны таварыскі матч. Розыгрыш закончыўся нічыёй 1:1 (1:1). Першы гол у 36 хвіліне матча забіў у вароты беларускай каманды **Яцэк Бонк**, а ўжо ў 37 хвіліне мяч у вароты польскай каманды загнаў **Юрый Вяргейчык**. Змаганні футбалістаў прыйшло паглядзець сем тысяч балельшчыкаў.

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Спад вытворчасці

Вядомыя ўжо даныя, якія адлюстроўваюць дынаміку спаду вытворчасці ў рэспубліцы, які ў пачатку гэтага года дасягнуў беспрэцэдэнтных памераў. Паводле звестак Міністэрства эканомікі, у студзені спад склаў 37,5%, у лютым — 35,6%, у сакавіку — 31,4%, у красавіку — 28,5% і ў маі — 32,5%. За першых пяць месяцаў 1994 г. агульны спад прамысловай вытворчасці быў у два разы большы, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Асноўная прычына гэтага — крызіс збыту прадукцыі, якая ахапіла ў асноўным апрацоўчыя галіны.

### Кампенсацыя замест датацыі

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь у мэтах сацыяльнай абароны асобных катэгорый грамадзян, у сувязі з увядзеннем свабодных цэн на хлеб, хлебабулачныя вырабы, малако і малочныя прадукты, пастанавіў увесці з 1 жніўня 1994 г. штомесячную кампенсацыю ў памеры 80-85 тысяч рублёў.

### Ліквідацыя вынікаў пажараў

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Чыгір падпісаў распараджэнне аб выдзяленні абласцям 3 млрд. рублёў на ліквідацыю вынікаў сёлетніх пажараў, прычым крыху больш 1 млрд. руб. пойдуць у казну Брэсцкай вобласці, якая найбольш пацярпела ад агню. Усе вобласці рэспублікі поўнасцю ўжо расходавалі на барацьбу са стыхіяй страхавыя фонды, прыкладна на мільярд „зайчыкаў" кожная. У гэтым годзе, у адрозненне ад пажарнага 1992 года, урад не мае намеру поўнасцю пакрыць страты нанесеныя стыхіяй, бо няма сродкаў.

### Ніжэйшая ўраджайнасць

Сёлетняя спякота, якая не назіралася ў Беларусі практычна 100 апошніх гадоў, прынесла вялікія страты сельскай гаспадарцы рэспублікі. Асабліва пацярпела Брэсцкая вобласць, дзе засуха знішчыла ўраджай на вялікіх плошчах. У сувязі з гэтым становішчам адбыўся візіт прадстаўнікоў ААН, якія ацанілі сітуацыю ў рэспубліцы з мэтай магчымага аказання міжнароднай харчовай дапамогі ў 1994 і 1995 гадах.

### Новыя кадры

На конкурснай аснове і шляхам тэсціравання будзе набірацца штат тэхнічнага абслугоўвання ў адміністрацыю прэзідэнта. Толькі невялікі працэнт машыністак, стэнаграфістак, перакладчыкаў, якія раней працавалі ў апараце Савета Міністраў, застанецца працаваць пры новай уладзе. Галоўным патрабаваннем, апрача прафесійных якасцей, для многіх будзе веданне беларускай мовы.

### Падрыхтоўка да выбараў

Не паспела завяршыцца адна выбарчая кампанія, як пачалася падрыхтоўка да другой — выбару новага саставу парламента. Многія палітычныя партыі ўжо сёння праводзяць сустрэчы з выбаршчыкамі, растлумачваюць свае праграмныя мэты і тактыку палітычнай барацьбы, нягледзячы на тое, што цяперашні Вярхоўны Савет пакуль яшчэ не вызначыў дату новых парламенцкіх выбараў. Дарэчы, на партыйнай аснове прымаць удзел у выбарах новага саставу парламента на сённяшні дзень маюць права 23 палітычныя партыі, зарэгістраваныя Міністэрствам юстыцыі.

### Інфармацыйны канал

Міністэрству замежных спраў Беларусі даручана наладзіць пастаянны інфармацыйны канал з дзяржавамі, на тэрыторыі якіх знаходзяцца месцы кампактнага пражывання беларусаў. Асноўная мэта яго — атрыманне аб'ектыўнай інфармацыі для далейшага аператыўнага рэагавання.

### З'езд беларусаў Балтыі

У Вільні адбыўся з'езд беларусаў Балтыі. Акрамя прадстаўнікоў беларускіх абшчын з Эстоніі, Латвіі і Літвы ў рабоце з'езда ўдзельнічалі госці з Беларусі — ад Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" і Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына". Удзельнікі пасяджэнняў абмеркавалі шляхі адраджэння беларускай нацыянальнай культуры, мовы і гісторыі сярод жыхароў балтыйскіх краін беларускага паходжання.

### За навукай у Ізраіль

Вывучаць вопыт аграрнікаў Ізраіля адправілася ў гэтую краіну група беларускіх спецыялістаў. Такая магчымасць прадстаўлена ім у рамках праграмы міжнароднага супрацоўніцтва МАШАФ. Сельскагаспадарчыя курсы працягнуцца пяць тыдняў. Заняткі будуць весціся на роднай мове па праблемах агародніцтва, жывёлагадоўлі і аграметэаралогіі.

### Грандыёзнае махлярства

Такога махлярства, якое адбылося ў горадзе Бярозе, міліцыя не прыпомніць. Трое невядомых, з выгляду зусім прыстойных маладых людзей, прыехалі ў камбінат бытавога абслугоўвання атрымліваць трыкатажныя вырабы, прад'явілі даверанасць вытворча-камерцыйнай фірмы з Оршы і пляцёжныя даручэнні, атрымалі тавар на суму амаль 30 млн. руб., загрузілі і паехалі. Калі кіраўнікі бярозаўскага КБА пазванілі ў Оршу, аказалася, што такога прадпрыемства і ў паміне няма. Стала ясна, што бярозаўскіх бытавікоў падманулі.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- Успаміны Анастасіі Фірсовіч з Відава.
- П'юць "Раял" і "дзінатуру" вясковыя кавалеры.
- Незвычайная сустрэча Ганны Кандрацюк з епіскапам Сіманам.
- Палітычныя паслядоўнасці югаслаўскай вайны.

## ПРАМЫ ЭФІР З ПРЭЗІДЭНТАМ

*Працяг са стар. 1*

гу 6—8 месяцаў магчыма пераадолець глыбокі крызіс у краіне, калі не поўнасцю, дык прынамсі можна будзе спыніць інфляцыю, якая зараз дасягнула тэмпаў 50% у месяц. Заклікаў ён грамадства да цярплівасці, а багатым прапанаваў адрачыся ад часткі сваіх зарплат. Ён сам 30% свайго месячнага акладу аддае ў казну і адмаўляецца ад кампенсацыі дзяцей.

Здаецца, што пераймальнікаў у прэзідэнта не будзе многа. Хто скажа, што яму непатрэбныя грошы?

**ВІТАЛЬ ЛУБА**



 

# КАНЦЭРТ У КЛЕНІКАХ



*Маладыя артысты з Пачатковай школы ў Кленіках.*

Ганна — асенняя панна. Скончылася спякота. Беларускае грамадска-культурнае таварыства працягвае летнюю акцыю фэстынаў. 14 жніўня чарговая такая імпрэза прайшла ў Кленіках.

Суарганізатарам яе быў Гмінны асяродак культуры ў Чыжах.

—Раней заўсёды такія імпрэзы арганізавалі мы ў самых Чыжах, — кажа дырэктар асяродка Юрка Якімюк, — цяпер падумалі, каб выйсці да жыхароў гміны. Кленікі, гэта вялікая вёска, а ніколі тут чагосьці такога не было. Дырэктар школы Ян Лабузінскі аддаў у нашае распараджэнне спартыўную пляцоўку, так што месца маем вельмі добрае. Людзей шмат прыйшло. Я думаю, добра сталася, што мы рашыліся на Кленікі.

Арганізатары хваляваліся, ці дождж не разгоніць імпрэзу, бо ўначы прайшоў даволі вялікі лівень, ды і ўдзень вецер ганяў па небе сюды-туды цёмныя хмары. Але падрыхтаваліся і на такі выпадак — канцэрты прайшлі б у школе. Вядома, гэта было б не тое, але на шчасце дождж у тую нядзелю Кленікі абмінуў і фэстын прайшоў удала.



*Кленіцкая публіка.*

На сцэне, апрача старэйшых спевакоў — з Тыневіч, Ляўкова, Чыжоў, Арэшкава, Дубяжына, Гарадка, Орлі, бельскіх „Васілёчкаў" і міжгарадскога эстраднага „Рэалю" — паказаліся дзеткі з пачатковых школ у Кленіках, Чыжах і Орлі. Расце добрая змена.

Для моладзі гміна сарганізавала бясплатныя танцы ў мясцовай святліцы. Усю ноч іграў гурт „Рэаль". Вакол святліцы стаяла столькі машын, што рэдка на якім свяце бывае. Ці толькі таму, што забава была дармовая, ці ўсё-такі салідная апошнім часам праца калектыву прынесла эфект? Можа яшчэ не славу, але вядомасць на Беласточчыне — напэўна.

**ак**

**Фота Сяргея Грынявіцкага**

# ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ Ў ВАСІЛЯ ПЕТРУЧУКА!

Кажуць, няма дасканалых людзей, усе мы грэшнікі і жывем на адных памылках. Васіля Петручука я ведаю з маленства і памятаю, як ён з жонкаю і дзецьмі гасцяваў у доме маіх бацькоў недзе летам 1954 года. Быў госцем майго швагра, які разам з ім служыў тады ў Варшаве ў бяспецы. Швагер з жонкай і Васіль былі ў водпуску. Я да будучага пісьменніка адчуў нейкую сімпатыю і прыязнасць, а пасля што здарылася, калі я стаў дарослым — з-за пустога мяшка, як кажуць, наша дружба з Васілём Петручуком пачала псавацца. Гэта выключна мая віна. Пачаў я прыдзірацца да яго кнігі „Пожня", брыдка гаўкаць. А наконт яго кнігі можна многа гаварыць, чытаць яе, разбірацца ў фактах, і наканец я яе ўрэшце зразумеў, як каштоўную і непаўторную аповесць з нашага беларускага жыцця ў час міжваенны і пасля вайны. Маёй памылкай была эгаістычная эмоцыя і вера ў плёткі некаторых жыхароў роднай вёскі Петручука — Грабаўца. І таму нашы погляды з пісьменнікам вельмі часта і моцна не згаджаліся. Тое, што ён служыў у бяспецы, так як і мой швагер Ян Жубэр — не злачынства, бо ўсё ж хтосьці мусіў гэтым займацца, каб быў нейкі парадак у краіне. Сёння, глянь-це, які ў нас парадак!

Я сам паходжу з зацятай камуністычнай сям'і, але час сваё зрабіў і я многа зразумеў. На жаль, не ўсё, прыкладам чаго была ў мяне беспардонная барацьба са спадаром Васілём Петручуком. Брыдка сябе адчуваю цяпер з гэтай прычыны. Памятаю кароткі артыкул В. Петручука ў „Голасе Радзімы" п.з. „Ніхто нас не пытаўся", вельмі праўдзівы, якога, на жаль, я не зразумеў і напісаў вострую палеміку ў „Голас Радзімы" і ў „Ніву" п.з. „Дух сталінізму, пагарды і хлусні" і надрукавалі яе там і там. Прашу сёння ў сп. Васіля прабачэння за тыя словы паклёпу, якімі яго я так ачарніў. Чытачы, якія палічылі іх праўдай, няхай іх выкінуць з галавы і сэрца, як нейкую байку. Я вельмі пакрыўдзіў чалавека. Вельмі прашу ў сп. Васіля прабачэння і за іншыя мае напасці, і за дурны верш, які я яму выслаў у час майго вялікага напружання і крызісу. Дрэнна, калі чалавек такі выбуховы і раптоўны, як я.

Час даўно ўжо нам памірыцца, дарагі Васіль Петручук! Мая ганарлівасць і злосць брала верх над розумам. Даю слова хрысціяніна Васілю Петручуку, што перапрашаю яго з усяго сэрца, і кажу праўду, у маім сэрцы ёсць да Вас замест колішняй антыпатыі павага і любоў як да чалавека і нашага пісьменніка, якім мы павінны ганарыцца.

Хто з чытачоў можа падумае, што хачу падлізацца Васілю Петручуку і мэта ў мяне нейкая падазроная. Маё сэрца гэта сказала. І дзякую нашаму Андрэю Гаўрылюку, што дапамог мне ў гэтым — нізка яму кланяюся, а сп. Васілю Петручуку і яго сям'і жадаю ўсяго найлепшага.

З пашанай —

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

## ЯКОЕ ЛЕТА?

Летняе надвор'е ў сельскай гаспадарцы мае вялікае значэнне. І мокрае, і сухое лета можа стаць катастрофай для насельніцтва. Лета 1989 года аказалася вельмі мокрым. Тады ад паловы чэрвеня да канца ліпеня амаль кожны дзень праходзілі кароткачасовыя, але пралiўныя дажджы. Не было сялянам як сушыць сена. Толькі два дні ліпеня выдаліся пагоднымі. Помню, як у вёсцы праклінілі надвор'е. Па ўсіх ніжэйшых палях павымакала бульба. Людзі накапалі менш за палову бульбянага ўраджаю.

Гэтай вясной знаёмы дзед сказаў: „Памятай, лета будзе сухое, таму што ў рове квітнее лотаць". Я праверыў. На лугах нідзе не было кветак лотаці, але глыбока ў рове ўсё жаўцела. Ці гэта сапраўдная прыкмета? Трэба паназіраць.

У гэтым годзе лета прынесла страшэнную засуху. Бульба не вырасце. Яна маленькая. Маленькія, засушаныя зярняткі жыта і аўса. Спажывецкія прадукты будуць напэўна дарагімі і падаражэе наша жыццё-быццё.

Людзі гавораць, што клімат нам сапсаваўся. Даўней надвор'е часцей змянялася. Цяпер жа наглядаецца пара мокрая і пара сухая, зусім як у паўднёвых краінах. Вельмі хочацца, каб гэтая з'ява не стала для нас нормай, каб лета было звычайным.

**МІКАЛАЙ ВАРАНЕЦКІ**

## З ДУМКАЙ ПРА ЗВЯРОЎ І ПТУШАК

На зыходзе ліпеня і ў пачатку жніўня ў прыродзе наступае час летняга пераломy: птушкі, якіх галасы да нядаўна чуваць было паўсюдна, аціхаюць і іх месца займаюць насякомыя. Яшчэ ў некаторых гнёздах ёсць малыя, якіх кормяць спозненыя бацькі. Маладыя буслы вылятаюць з гнёздаў, але любяць яшчэ, калі бацькі іх падкормліваюць. Пеўчыя птушкі ціхнуць і пачынаецца ў іх лінька пер'яў. Пачынаюць вылятаць маладыя журавлі. Можна іх спаткаць на лугах, сенажацях, куды збіраюцца жураўліныя сем'і ў пошуках корму. Незадоўга пачнуць яны сваё падарожжа на поўдзень і захад. Гуртуюцца ў чарады шпакі, чайкі і шэрыя чаплі. Сярэдзіна лета — гэта найлепшая пара для насякомых; многа тады матылёў, чмялёў і вос. На лугах, палях і агародах чуваць канцэрты цвыркуноў, конікаў і іх супляменнікаў: сёлетняяе „афрыканскае" надвор'е спрыяе ім. Насякомыя з'яўляюцца важным кормам буслоў, якія з'ядаюць іх аграмадныя колькасці.

Пякучы з неба жар высмактаў з лужын і іншых вадаёмаў апошнюю ваду, якой так многа было вясною. На шчасце для жабаў, рапух і трытонаў засуха пачалася позна. Да гэтага часу апалонікі ўспелі ўжо перамяніцца ў жабы. Спякота таксама моцна дакучае лясным млекакормячым, якія ахвотна купаюцца ў вадзе, балоце або пяску. Падчас вялікай жары трэба падумаць пра звяроў і птушак, якія жывуць побач нашых сялібаў. У прасторным месцы трэба ім паставіць талерку з вадою: птушкі скарыстаюць ахвотна, а пасля з прыемнасцю адспяваюць нам сваімі цудоўнымі галасамі.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**




Szanowna Redakcjo,

proszę uprzejmie o podanie warunków prenumeraty „Niwy" bezpośrednio z Redakcji. Jeżeli to możliwe, to nawet już od 1 sierpnia b.r. W zeszłym roku Wasz tygodnik prenumerowałem poprzez „Ruch", w miejscu pracy. Gdy straciłem pracę — straciłem też możliwość prenumerowania przez „Ruch". Myślę wszakże, że Redakcja może tygodnik bezpośrednio wysyłać na mój adres, podobnie jak to robi dla wielu innych.

Przy okazji przesyłam jeden z aspektów moich wrażeń z pobytu tegorocznego w Kanadzie i na Białorusi. Gdyby Redakcja zechciała to wykorzystać do druku — proszę poprawić błędy, których zapewne jest sporo. Po powrocie z Białorusi postanowiłem po raz drugi uczyć się białoruskiego (chociaż tam nie był on mi potrzebny, bo wszechwładnie panuje rosyjski). Myślę, że i w ten sposób, chociaż trochę, pomogę białoruskim patriotom w ich budzeniu świadomości narodowej, że ja, Polak, postanowiłem uczyć się języka białoruskiego, chociaż całkiem swobodnie mogę bez niego się obejść.

Gdyby Szanowna Redakcja uznała za celowe wydrukowanie moich skromnych rozważań, oświadczam, że nie roszczę żadnych praw do honorarium z tej racji. Niech to będzie wkład czysto ideowy.

**Z poważaniem**
**WŁADYSŁAW KLIMEK**

**Ад рэдактара:**

**Шаноўны спадар Уладзіслаў Клімэк!**

Умовы падпіскі на „Ніву" ў рэдакцыі змяшчаем на 11 старонцы, аднак на практыцы мы робім так: калі хтосьці дашле на наш банкаўскі рахунак любую суму, на такую ж суму мы высылаем на яго адрас „Ніву", пакуль яго грошы не скончацца.

У рэдакцыі падпіска ёсць даражэйшая з увагі на кошт паштовай маркі, якая з'яўляецца неабходнай, каб пераслаць тыднёвік на адрас кожнага нашага чытача.

Ваш артыкул напісаны на прыгожай беларускай мове (друкуем на старонцы 8). На жаль, паказвае ён сумную беларускую рэчаіснасць. І маеце рацыю, лёс беларусаў перш за ўсё залежыць ад іх саміх.

# ГАРАЧЫНЯ

Не памятаю такога летка, каб у цяні тэмпература дасягала сарака градусаў і не было другога пакосу травы — атавы. Трава павыгарала, і гэта можа давесці да таго, што прыйдзецца селяніну быдла зачыняць у хляве альбо яго пазбаўляцца. Нам пагражае стыхійная бяда — засуха. Хаця збожжа сёлета дало ніжэйшы сярэдняга плён, голад так нам і не пагражае, як у выпадку бульбы. Заміраe ўвесь раслінны свет. Лічы, што больш двух месяцаў, ад Тройцы, не выпаў каштоўны дождж. Дай Божа трошкі дажджу на нашыя нівы! Увечары 9 жніўня выпаў першы дожджык, але колькі яго было, каб напаіць пустынную зямлю! Ці не за якія грахі такая на нас кара?

Такая гарачыня, што нават пяро ў руках не трымаецца! Цяпер мне не дзіўна, што неграў і арабаў лічаць людзьмі лянівымі, у іхніх краінах такая спёка — з'ява нармальная. Ну дык я хоць падумаў: напішу нешта ў „Ніву", каб не падумалі ў рэдакцыі і чытачы, што Панфілюк „б'е ў хамуты" ці мо зноў пагневаўся. Ва ўсім жа толькі вінавата гэтая невыносная спякота і праца селяніна-паштара...

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

# ПАВАГА ДА КУЛЬТУРЫ І МОВЫ

## Інтэрв'ю з Георгіем Таразевічам — Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Польшчы.

**„Ніва":** *—Спадар Пасол, Ваш вельмі багаты жыццёвы шлях давёў Вас у вялікую палітыку, але пачнем можа з найбліжэйшага чалавеку вымярэння, сямейнага...*

**Георгій Таразевіч:** — Мая сям'я — звычайная сям'я заходнебеларускіх сялян, праваслаўная па веравызнанні. Адна мая бабуля была каталічкай, адтуль пэўна ж імя Станіслаў у майго бацькі. Сам я таксама праваслаўны.

Калі мы пры сямейных справах, дык скажу, што нечакана для сябе знайшоў я на Беласточчыне сваяка, хаця і далёкага. Гэта а. Дзевятоўскі з Гайнаўкі.

*— А ў якой школе Вы вучыліся?*

— Нашая мясцовая школа была поўнасцю беларуская, г.зн. усе прадметы вяліся на беларускай мове. У сувязі з тым, калі я здаваў экзамены ў Львоўскі Політэхнічны інстытут, мусіў прасіць дазволу здаваць экзамены на беларускай мове. Дазволілі, і такія прадметы як хімія, фізіка і матэматыка я здаваў на беларускай мове. Іншыя абітурыенты падслухоўвалі пад дзвярыма і смяяліся, так ім было дзіўна ад гукаў нечуванай імі мовы.

*— А што абазначае слова „аэра-" ў назве прадпрыемства, у якім Вы пачалі працаваць?*

— Яна займалася геадэзічнымі і тапаграфічнымі (картаграфаванне) працамі і многа матэрыялаў дабывалі мы з самалёта ці нават з космасу. Прадпрыемства абымала сваёй дзейнасцю абшары паўночнага захаду Расіі, ад Маскоўскай і Калужскай па Валагодскую і Кіраўскую вобласці.

*— Раскажыце крыху аб Якуціі, гэта ж такая рамантычная краіна.*

— Кіраваў я экспедыцыяй з 500 чалавек. Выконвалі мы асноўныя геадэ-зічныя працы, складалі тапаграфічную карту маштабу 1:25000. Працавалі мы на абшары паміж Верхаянскім і Чэрскага хрыбтамі, у поймах рэк Яна і Індыгірка. У гэтых мясцінах знаходзіцца полюс холаду.

Галоўным было давезці ў сакавіку і красавіку ўсё, каб людзі маглі пражыць пяць месяцаў ад мая да верасня.

*— Гэта ж неверагодныя для нас, тутэйшых, адлегласці.*

— Вазілі асноўным чынам самалётамі і верталётамі. Паколькі паветраная дастаўка вельмі дарагая, таму частку грузу давозілі чыгункай да вярхоўяў Лены, а пасля па г.зв. „зімніках", па лёдзе, з ракі на раку, больш чым 2 тысячы кіламетраў. Цяжка было шафёрам, бо ні на мінуту не можна было выключыць матор. Карысталіся і гусенічнымі усюдыходамі, у тым ліку і амфібіямі, але таксама і якуцкімі конікамі з уючным сядлом.

*— Як вам падабалася Якуція?*

— Краіна надзвычайна багатая сваёй прыродай, поўная рыбы і звярыны. Помню, прыляцеў я калісь на верталёце з брыгадаю. Пакуль я гаварыў са сваімі людзьмі, пілоты вудачкамі за 1,5—2 гадзіны налавілі два мяшкі па 50 кілаграмаў акунёў. Якуты наогул рыбай лічаць асётравыя, такі, напрыклад, шчупак гэта для іх не рыба.

*— А як складаліся адносіны з мясцовым насельніцтвам?*

— Асаблівых праблем мы не назіралі. Мы да іх ставіліся з павагай і яны да нас таксама. Дрэнна толькі тое, што частка прышэльцаў з г.зв. „мацярыка" — гэта былі бадзягі, якіх звалі „бічамі" і якія валэндаліся і непакоілі людзей. Якуты вельмі раўнівыя да прыроды і не могуць прымірыцца з тым, што некаторыя прышэльцы зніштажаюць рыбу ці дзіч без патрэбы, па-варварску.

*— Калі мы ўжо закранулі праблему міжнацыянальных адносін, можа раскажаце, як яны выглядалі, калі Вы ўзначальвалі якраз адпаведную камісію ў Вярхоўным Савеце СССР. Гаворыцца, што менавіта недаацэнка гэтай праблемы стала прычынай паражэння Гарбачова.*

— Праблема Гарбачова гэта асобная тэма. Як стратэг ён быў слабы. Умеў балансаваць, але глядзець наперад, тым больш далёка ўперад, на мой погляд, ён не ўмеў.

Быў у яго яшчэ адзін недахоп, звязаны з яго ўстарэлым, партыйным менталітэтам. Ён не мог сабраць вакол сябе ў гэты цяжкі, складаны перыяд квет дзяржавы і стварыць „трэст мазгоў", які б мог яму нешта параіць і засцерагчы ад няправільных крокаў. Каманду пераняў ён ад мінулых часоў і мінулых партыйных структур, для якіх слова вышэйстаячага з'яўляецца законам для ніжэйстаячага і не падлягае дыскусіі.

Гарбачоў і яго акружэнне не разумелі, што ў перыяд, калі ідуць радыкальныя пераўтварэнні, калі ідзе барацьба за ўладу, ды і жорсткая (а гэта тады ўжо было відаць), розныя палітычныя сілы, каб перацягнуць на свой бок больш людзей, скарыстаюць усё магчымае, у тым ліку і такую тонкую грамадскую матэрыю як нацыянальнае пытанне.

У той час, калі пры ўладзе была партыя, калі ўсюды панаваў таталітарызм, нацыянальныя праблемы былі прыдушаныя. У новых умовах трэба зразумець было Гарбачову і яго камандзе, што ў гісторыі, калі праходзілі радыкальныя перамены, заўжды ўзнікала нацыянальнае пытанне, бо такі закон грамадскага развіцця.

Вось узнікла праблема ў Малдавіі: Гагаўзія і Прыднястроўе. Праблема ўзнікла ад закону аб мовах. Адраджэнне мовы — гэта заканамерны працэс для малдаван (большасці насельніцтва рэспублікі), але ж трэба было прадугледзіць што і іншыя таксама маюць права на сваё адраджэнне і сваю мову. Помню, колькі часу мне прыйшлося патраціць у 1989 г. з саюзным і малдаўскім кіраўніцтвам, каб яны зрабілі нейкую нацыянальна-культурную аўтаномію для Гагаўзіі і Прыднястроўя. Падкрэсліваю, нацыянальна-культурную, а не палітычную аўтаномію. Гэта значыць, трэба было прадугледзіць прававыя палажэнні для гагаўзаў, украінцаў, рускіх, беларусаў, каб яны таксама маглі адраджаць сваю культуру.

Быў я там тры разы, паездзіў па сёлах, думаў, быццам бы ўсё можна зрабіць і даволі лёгка. Усё ж такі цэнтр сказаў, што, маўляў, не будзем прымушаць. У 1991 г. я пабачыў ужо, што народ на месцах узбудараджаны, што праблема неверагодна насілілася. Людзі мяняліся літаральна на вачах.

Нацыянальная струна вельмі тонкая і калі палітыкі пачынаюць іграць на гэтай струне, яна лёгка можа лопнуць. Асабліва наглядалася гэта ў Карабаху. Дазволілі гуляць там мясцовым ватажкам і таксама ў цэнтры ніхто не рэагаваў. Калі я там паляцеў, ужо зрэдку пастрэльвалі, а што атрымалася, дык усе ведаюць. На жаль, і некаторыя палітыкі з цэнтра ігралі з гэтай праблемай, ускладняючы сітуацыю ў Карабаху, Вільні і іншых месцах.

Хочаш не хочаш, а зрабіўся я экспертам па канфлікталогіі, бо ўзнікла і такая навука.

*— Цяпер можаце скарыстаць свой вялікі палітычны вопыт у беларускай дыпламатыі.*

— Праўду кажучы, тады ў Маскву „рэкамендаваў" мяне тагачасны I сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў, з якім я разыходзіўся па многіх пытаннях.

Намеснікам міністра замежных спраў РБ назначыў мяне тадышні прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч. Чаму, толкам не ведаю, магчыма, каб лягчэй было выслаць з Беларусі. Што адпраўлялі з Мінска, дык дакладна, а вось геаграфію выбіраў я сам.

*— Ці можна ведаць, чаму Вы выбралі Польшчу?*

— Польшча — гэта бліжэйшы сусед Беларусі і адносіны з ёю маюць стратэгічнае напраўленне. Стукацца толькі ў адны дзверы зусім неразумна. Трэба ж ладзіць нармальныя адносіных з усімі суседзямі. Польшча — гэта для Беларусі напрамак, які вядзе ў Еўропу ў дадзенай палітычна-эканамічнай сітуацыі. Ёсць чаму ў палякаў навучыцца. Не выкарыстоўваюцца магчымасці ўзаемавыгадных праектаў. Сумесна з Польшчай мы маглі б хутчэй ісці па шляху рэформаў, на будаўніцтва эканомікі, якая б не была зарыентаваная толькі ў адзін бок, што і небяспечна і нявыгадна.

Цяпер у нас памянялася сітуацыя і адносіны актывізуюцца. У Беларусі праходзяць змены, перш за ўсё кадравыя, прыходзіць многа людзей, галоўным чынам маладых. Нейкі час будуць вызначацца пазіцыі новага кіраўніцтва, але я ўпэўнены, што розум, які не абцяжараны мінулым, знойдзе аб'ектыўны, разумны напрамак у палітыцы. Так ці інакш, нашыя адносіны з Польшчай павінны актывізавацца, а я сам буду рабіць усё дзеля гэтага.

*— Дык як з гэтага пункту гледжання ўспрымаць паведамленні аб візіце прэзідэнта Беларусі, сп. Лукашэнкі, у Маскве?*

— Глыбокага аналізу не магу зрабіць, бо яшчэ не хапае дакладнай інфармацыі. Важна, што аб нашым прэзідэнце Ельцын сказаў добрае слова як аб палітыку і чалавеку, з якім можна супрацоўнічаць. Гэта важная справа не толькі для прэзідэнта, але і для Беларусі. Добра, што абодвума бакамі была выказаная воля больш прадуманага супрацоўніцтва, якое абапіралася б на аналізе рэальнай сітуацыі.

*— Заявы аб цесным супрацоўніцтве некаторыя беларусы, і не толькі яны, успрымаюць як прадвесце далучэння Беларусі да Расеі. Што гэта за дзяржава без сваёй валюты?*

— Ці будзе сумесная рублёвая зона, гэта залежыць ад многіх фактараў. На мой прыватны погляд, гэтага ў бліжэйшым часе не будзе.

*— Нарэшце хачу Вас запытаць як пасла РБ у Польшчы і выдатнага спецыяліста па міжнацыянальных зносінах, як бачыце праблему беларуска-польскага сужыцця — як у Польшчы, так і ў Беларусі?*

— Праблема ёсць. Заўсёды, калі ёсць нацыянальная меншасць, гэтая праблема выступае. Нездарма ААН і НБСЕ праблемы меншасцей трымаюць пад уважлівым позіркам.

Добра тое, што ні ў Беларусі, ні ў Польшчы няма такой вастрыні гэтых супярэчнасцяў, як у іншых рэгіёнах. Нешта робіцца і ўладамі, хаця не ўсё, што хацелася б. Палякі ў Беларусі гавораць, што беларусы ў Польшчы маюць больш, а беларусы ў Польшчы — якраз наадварот. Мне цяжка вымераць, дзе больш на самай справе, але думаю, што важнае становішча не матэрыяльнае, а толькі маральнае: павага да культуры і мовы. З гэтым не зусім добра па абодвух баках, але маю надзею, што ўсё будзе мяняцца на лепшае.

*— Дзякую за размову.*

Гутарыў
**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**

# ЛІГА КРАІН МІЖМОР'Я — МРОЯ ЦІ РЭЧАІСНАСЦЬ?

Ідэя інтэграцыі краін міжмор'я не новая, але дасюль не выходзіла фактычна за рамкі тэарэтычных разважанняў ва ўмовах пасляваеннай рэчаіснасці. Перамена геапалітычных, а за імі і эканамічных умоў у Цэнтральна-Усходняй Еўропе пасля распаду Савецкага Саюза паспрыяла аднаўленню гэтай думкі ў дзе-якіх палітычных асяроддзях краін між Балтыйскім, Чорным і Адрыятычным морамі.

Крокам да ажыццыяўлення той думкі была канферэнцыя партый краін міжмор'я, праведзеная 29—30 ліпеня 1994 г. у Кіеве.

Прадстаўнікі 20 палітычных партый з 9 краін заснавалі на канферэнцыі „Лігу палітычных партый краін міжмор'я", названай імі „Лігай міжмор'я". Паводле заявы, падпісанай прадстаўнікамі 15 партый (з ліку 20) з 6 краін (з ліку 9) аб стварэнні Лігі, з'яўляецца яна „дабравольным саюзам палітычных партый, асабліва тых, якія маюць сваё парламенцкае прадстаўніцтва." Мэтай мае быць: „каардынацыя стаgoing ранняў за ўмацаванне міру і бяспекі, ды пашырэння супрацоўніцтва дзяржаў і народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы". Асноўныя прынцыпы супрацоўніцтва ўдзельнікаў Лігі гэта:

— дабравольнасць удзельніцтва,

— няўмешванне ва ўнутраныя справы краін-удзельніц,

— узгадняннe рашэнняў,

— азнаямленне грамадскай думкі са значэннем супрацоўніцтва краін міжмор'я,

— абавязак выканання супольных рашэнняў удзельнікамі лігі.

Сярод 15 партый-заснавальніц з 6 краін — Эстоніі, Літвы, Латвіі, Польшчы, Украіны і Беларусі — з беларускага боку заяву падпісалі прадстаўнікі БНФ „Адраджэнне" і Партыі зялёных.

На прэс-канферэнцыі, скліканай у Варшаве 2.08.1994 г., лідэр КПН Лешэк Мачульскі расказаў аб праграме дзеяння Лігі ў галіне палітычнага супрацоўніцтва, бяспекі, нацыянальных меншасцяў, эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва, экалогіі. Маючы на ўвазе склаўшыеся ў выніку гістарычных абумоўленасцей этнічныя ўзаемазалежнасці, падкрэсліў ён значэнне супрацоўніцтва ў галіне забеспячэння інтарэсаў нацыянальных меншасцей. Неабходнасць паляпшэння жыццёвага ўзроўню народаў патрабуе, на яго думку, эканамічных сувязей з багатымі, добра арганізаванымі краінамі Захаду і вызвалення ад гегемоніі эканамічнага беспарадку Усходу з яго імперыялістычнымі памкненнямі. Значэнне праблемы экалогіі звязаў ён з чарнобыльскай трагедыяй. Яе наступствы заінспіравалі, галоўным чынам, беларускую Партыю зялёных да ўдзелу ў Лізе міжмор'я. Удзел так БНФ, як і Партыі зялёных у стварэнні Лігі і яе праграмы дзеяння ацаніў ён як актыўны і канструктыўны фактар.

Галоўным органам Лігі мае быць Кансультатыўная рада, а кіраўніцтва Рады будзе па чарзе пераходзіць на паасобных удзельнікаў.

На пытанне, як хутка, на яго думку, можа наступіць поўнае ажыццяўленне ідэі Лігі, Лешэк Мачульскі адказаў, што гэта будзе працэс безумоўна доўгі, але ён напэўна здзейсніцца, хоць можа не пры жыцці яго пакалення.

Я.Ж.

# ЛЕТАПІС БЕЛЬСКАГА ЛІЦЭЯ

*(заканчэнне;*
*пачатак у папярэднім нумары)*

Важным момантам у працы школы з'яўляюцца кантакты з Беларуссю і беларускай дыяспарай. На працягу дзесяцігоддзяў Ліцэй наведвалі многія дэлегацыі з былога СССР, ЗША, Англіі, Канады. Зацікаўленне школай узрасло ў другой палове васьмідзесятых гадоў, калі на тэрыторыі былога СССР пачалі арганізаваць навучанне польскай мовы. Кантакты з Беларуссю становяцца ўсё бліжэйшымі. У 1988 годзе дырэктар Аляксей Карпюк падпісвае пагадненне аб супрацоўніцтве школ з дырэктарам Сярэдняй школы № 3 у Слоніме Лідзіяй Пякарскай. Наступае абмен вопытам паміж школамі. Ліцэй падтрымоўвае кантакты з Беларускім гуманным цэнтрам у Мінску, які присылае школам на Беласточчыне беларускія кніжкі, пераважна мастацкую літаратуру. А ў ліцэі і надалей не хапае падручнікаў па беларускай мове.

Дапамога з Беларусі становіцца больш канкрэтнай. У 1989 годзе першыя выпускнікі ліцэяў з беларускай мовай навучання ў Бельску і Гайнаўцы паступаюць у беларускія навучальныя ўстановы без экзаменаў, на падставе пагаднення паміж БГКТ і Міністэрствам адукацыі Беларусі. З таго часу кожны год звыш 10 выпускнікоў Ліцэя ідзе вучыцца ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі.

У 1990 годзе Беларускі фонд культуры заявіў гатоўнасць дапамагчы пры абсталяванні ў Ліцэі класнага кабінета беларускай мовы. Мастацкую апрацоўку зрабіў вядомы беларускі мастак Аляксей Марачкін. У сакавіку 1993 года кабінет быў ужо падрыхтаваны.

Год 1992 быў багаты візітамі высокіх гасцей. 6 сакавіка наведаў школу міністр народнай адукацыі Рэспублікі Беларусь праф. Віктар Гайсёнак, а 25 чэрвеня праходзіць кароткі візіт старшыні Вярхоўнага Савета РБ Станіслава Шушкевіча разам з мітрапалітам Мінскім і Слуцкім Філарэтам, міністрам замежных спраў Пятром Краўчанкам, пісьменнікам Васілём Быкавым, паслом Беларусі ў Польшчы Уладзімірам Сянько і іншымі асабістасцямі.

Шматлікія прыезды ў школу дэлегацый з Беларусі даводзяць да таго, што польскія ўлады цікавяцца школай і наведваюць яе. 25 красавіка 1989 г. у школу прыязджае міністр нацыянальнай адукацыі Яцэк Фісяк. У лютым 1990 года ліцэй наведвае група паслоў сеймавай Камісіі па справах нацыянальных меншасцяў. У ліпені 1993 года ў Пачатковую школу н-р 3 прыязджае міністр стану ў Канцылярыі Прэзідэнта Анджэй Закшэўскі.

У васьмідзесятыя гады змяняецца настаўніцкі калектыў. У 1982 годзе адыходзіць на пенсію Рыгор Анацік, а ў 1985 — Серафіма Кандрацюк. Працаваць у школу прыходзяць чарговыя яе выпускнікі: Яўгенія Крук, Валянціна Хаманская, а ў 1989 — Софія Карыцкая, Яўгенія Апалінская, Андрэй Філіманюк.

З 1 верасня 1989 года ствараецца пасада намесніка дырэктара. Стае ім мгр Зінаіда Навіцкая — настаўніца рускай мовы, якая ў ліцэі працуе з 1970 года.

23—24 верасня 1989 года праходзіць ужо III З'езд выпускнікоў. Гэта таксама 45 гадоў з дня стварэння школы. Тую падзею Ліцэй адзначыў высокімі дыдактычнымі дасягненнямі, а таксама немалой колькасцю — 2491 — выпускнікоў з атэстатам сталасці.

Жыццё ў школе не накіравана толькі і выключна на дыдактычныя вынікі і дасягненні ў прадметных алімпіядах. Аб усебаковым развіцці зацікаўленняў моладзі сведчаць многія перамогі ў ваяводстве і акрузе, а таксама ўдзел у цэнтральных спаборніцтвах і элімінацыях у шахматах, песні, у дэкламатарскіх конкурсах, марыністычным турніры, спартыўным сямібор'і, конкурсе ведаў аб мастацтве, тэхнічна-абаронных манеўрах.

Дыдактычныя рэзультаты ніколі не засланілі беларускага характару школы, якая дзесяцігоддзямі прапагандуе беларускую культуру сярод моладзі і ў асяроддзі. Школа арганізавала і арганізуе незлічоную колькасць сустрэч з людзьмі культуры, ансамблямі, беларускімі пісьменнікамі і паэтамі Беласточчыны і Беларусі. Беларуская абраднасць з'яўляецца адной з галоўных (вядучых) тэм праграмы навучання беларускай мовы.

Аб развіцці зацікаўленняў моладзі беларускай культурай і літаратурай, як і гісторыяй беларускага народа сведчаць многія перамогі ў дэкламатарскіх, гістарычных, чытальніцкіх конкурсах, аглядах драмгурткоў, арганізаваных БГКТ. З 1990 года вучні Ліцэя прымаюць удзел у рэспубліканскай алімпіядзе беларускай мовы ў Беларусі. Вакальныя ансамблі „Дзявочыяноткі" і „Крынічка" шмат гадоў былі пераможцамі конкурсу „Беларуская песня", а выпускнікі Ліцэя сталі членамі ансамбляў „Васілёчкі" і „Маланка".

Урачыстасці і юбілеі беларускага асяроддзя („белавежцаў", БГКТ) не абышліся без дэкламацыі і песні ў выкананні моладзі з Ліцэя.

У перыяд, калі колькасць навучэнцаў беларускай мовы на Беласточчыне зменшылася, у абедзвюх школах Бельска: Пачатковай школе н-р 3 і Ліцэі яна ўзрастала, узрастала колькасць аддзелаў. За гэта менавіта 23 верасня 1989 года на III З'ездзе выпускнікоў школа была ўзнагароджана дыпломам Міністра культуры „За дасягненні ў распаўсюджванні культуры".

У 1991 годзе адбываюцца сур'ёзныя перамены. 25 верасня адыходзіць на пенсію, пасля дваццацігадовай, вельмі плённай працы на пасадзе дырэктара, Аляксей Карпюк. Дасягненні школы — гэта дасягненні Аляксея Карпюка.

Пасля конкурсу на пасаду дырэктара, які адбыўся 25 лістапада 1991 года прызначэнне на пасаду дырэктара з днём 1 снежня 1991 года (на пяць гадоў) атрымала Зінаіда Навіцкая.

У тым жа годзе адыходзіць на пенсію Мікалай Красоўскі — вядомы і цэнены настаўнік матэматыкі. А працаваць у ліцэй прыходзяць Пятро Чэрнякевіч, Ірыней Красоўскі, Андрэй Сцепанюк — чарговыя выпускнікі ліцэя.

Дзевяностыя гады ў Ліцэі пачаліся не толькі з кадравых змен, але таксама з інспекцыі, якая адбылася ў снежні 1991 года і была падсумаваннем працы школы. Падкрэсліваліся яе асаблівыя заслугі ў рэалізацыі дыдактычнага працэсу.

Ад верасня 1993 года Ліцэй працуе з новым дакументам: „Статутам школы", у якім поўнае названне школы гучыць: II Агульнаадукацыйны ліцэй з беларус-кай мовай навучання імя Браніслава Тарашкевіча.

Ужо год школа карыстаецца добра абсталяваным Бацькоўскай радай камп'ютэрным кабінетам, у якім праводзяцца таксама камп'ютэрныя курсы для жыхароў горада.

Год 1994 — год юбілею. 50 гадоў з дня нараджэння школы. 2963 абітурыенты. Вельмі высокія паказчыкі навучання. Сярэдняя за апошнія 5 гадоў: 93,3% — паказчык навучання (sprawność kształ- cenia); 99,5% — „прамоцыя"; 80% моладзі паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

У ваяводскіх і акруговых алімпіядах прымала ўдзел 635 вучняў, 94 з іх — гэта ўдзельнікі цэнтральных алімпіяд, у тым ліку 18 лаўрэатаў.

24 і 25 верасня 1994 — IV З'езд выпускнікоў. 24 верасня адкрыццё мемарыяльнай дошкі, прысвечанай шматгадоваму дырэктару Яраславу Васільевічу Кастыцэвічу, уфундаванай Міністэрствам культуры і Саветам Міністраў Беларусі.

**Апрацавала**
**Дырэктар Ліцэя**
**ЗІНАІДА НАВІЦКАЯ**

# „КТО-ТО ЧТО-ТО ПРАЗДНУЕТ"

У Бярэсці 27—29 ліпеня 1994 г. адбылося некалькі буйных імпрэзаў. Святкавалі 975-годдзе Бярэсця, 50-годдзе вызвалення горада ад фашысцкіх захопнікаў, Дзень незалежнасці Беларусі (27 ліпеня), а пры гэтых нагодах прайшлі яшчэ — I Фэст берасцейцаў свету, навуковая канферэнцыя „Берасцейшчына — гісторыя і сучаснасць" і шмат іншых мерапрыемстваў. Каб разабрацца ў гэтым вялікім святкаванні, звярнулася я за тлумачэннямі да **ІРЫНЫ ЛАЎРОЎСКАЙ — прэзідэнта Грамадска-культурнага аб'яднання „Стары горад"**, архітэктара па прафесіі, члена Арганізацыйнага камітэта святкаванняў, адказной за Фэст берасцейцаў і навуковую канферэнцыю.

*— Ірына, рэдка здараецца бачыць у беларускім руху так апантаных спраўвай людзей, асабліва жанчын. На вашай візітцы перад прозвішчам ёсць назва фірмы „Грамадска-культурнае аб'яднанне „Стары горад". Што гэта такое і якое яго дачыненне да сёлетніх святкаванняў?*

**Ірына Лаўроўская:** — „Стары горад" — гэта дабрачынная, некамерцыйная арганізацыя. Існуе яна ад 21 лютага 1992 года. Нашыя мэты — спрыяць развіццю нацыянальнай культуры Беларусі, пад-трымліваць традыцыйныя талерантныя адносіны паміж грамадзянамі розных канфесій і нацыянальнасцяў, развіваць сувязі паміж берасцейцамі ва ўсім свеце. Як заданне ставім пошукі і вяртанне матэрыяльна-культурных каштоўнасцяў Берасцейшчыны, ахову помнікаў гісторыі, культуры і архітэктуры. Такім чынам мы хочам паказаць нашым грамадзянам сваю гісторыю, сваю спадчыну, якой можна ганарыцца на ўвесь свет.

*— Адкуль ідэя такой арганізацыі?*

— Бацькам „Старога горада" з'яўляецца Юрась Шаўцоў, які зараз жыве ў Вільні. Гэта ён прыдумаў аб'яднанне і яго мэты. А калі ёсць бацька, павінна быць і маці. Гэта вось я. А маці павінна дапільнаваць, каб усё ў сям'і было як трэба.

*— Паколькі вы актыўна назіраеце за парадкам працы „Старога горада", скажыце, калі ласка, пра вашу працу, што вы ўжо паспелі зрабіць?*

— Пачалі мы раскопкі бернардзінскага кляштара XVII стагоддзя, стварылі акцыянернае таварыства „Старажытнае Берасце", правялі міжнародную канферэнцыю „Экалогія рэк Буга і Лясной", чыталі курс „Гісторыя горада" ў некаторых школах, адкрылі рубрыку ў газеце „Брестский курьер" ды заснавалі незалежную газету „Наш шлях". І вось I Фэст берасцейцаў.

*— А якое дачыненне „Старога горада" да гэтай імпрэзы?*

— Па-першае: гэта нашая ідэя згуртаваць брэсцкую эміграцыю, людзей, якія былі выштурхнуты з Бацькаўшчыны вайной і пагрозай знішчэння, паказаць гэтым людзям, што яны ў Бярэсці не чужыя, і маюць чым ганарыцца як берасцейцы.

*— Колькі і адкуль прыехалі берасцейцы?*

— Прыехалі каля 300 чалавек з Польшчы, Францыі, Літвы, Нямеччыны, Вялікабрытаніі, Амерыкі.

*— Адкуль у вас кантакты з берасцейцамі?"*

— У большасці яны прыватныя, асабістыя. Многія берасцейцы раней прыязджалі на Бацькаўшчыну, напрыклад, сям'я Мантвілавых з Францыі. У многіх асталіся тут пляменнікі. У Польшчы існуюць арганізацыі, да якіх належаць берасцейцы: Клуб любіцеляў Валыні і Палесся, які ўзначальвае Эўгеніюш Ладны з Варшавы, Таварыства любіцеляў Бярэсця.

*— Як арганізацыйна ладзіўся Фэст берасцейцаў і навуковая канферэнцыя?*

— У арганізацыйны камітэт увайшлі: Рэгіянальная рада БНФ (Уладзімір Базан), Абласная бібліятэка, Фонд Льва Сапегі. Удзельнікі прыехалі за свой кошт. Мы аплачвалі пражыванне ў гатэлі „Дружба" і харчаванне, арганізавалі праграму пабыўкі. Нашымі спонсарамі былі Фонд Сораса Беларусь, сумесныя прадпрыемствы — „Яліна", „Інтэрсервіс", „Стыль". Без іхняй дапамогі ідэя фэсту не была б здзейснена.

*— А афіцыйныя ўлады вам не дапамагалі?*

— Яны не толькі не дапамагалі, але перашкаджалі. Да апошняй хвіліны блакіравалася інфармацыя пра фэст, а перадачу адтэрміноўвалі. Каб даць мне ў эфіры 2 мінуты, званілі за дазволам прэзідэнту РБ! Супраць нас быў старшыня Брэсцкага гарвыканкама Іван Венцэль. На адкрыцці святкавання 50-годдзя вызвалення Бярэсця ад нямецкіх захопнікаў ён быццам бы сказаў пра нас: „Где-то кто-то что-то празднует". А, здаецца, у 975-гадовай гісторыі горада 50 гадоў — гэта эпізод. Аргкамітэт даўно выслаў запрашэнні і інфармацыі аб святке. Два месяцы да фэсту сп. Венцэль праз пасрэдніцтва Міністэрства замежных спраў Беларусі інфармаваў замежжа, што фэст не адбудзецца. У колах эміграцыйных берасцейцаў такая інфармацыя ўвяла недавер да нашай імпрэзы і многія адмовіліся прыехаць. Таму пры наго-дзе хачу прасіць прабачэння ў тых, якія не прыехалі з-за дэзінфармацыі. Цяжкасці былі да апошняй хвіліны. Толькі ў суботу мы атрымалі дазвол правесці канферэнцыю ў Палацы моладзі. Толькі дзве берасцейскія газеты нам спрыялі: „Брестский курьер" і „Вечерний Брест", інфармуючы пра нашы мерапрыемствы.

*— Багатая праграма (выстаўкі, экскурсіі, сустрэчы, канцэрты), здаецца, была да спадобы берасцейцам. Якія былі прынцыпы запрашэння ў Берасце?*

— Недзе год раней мы праз пасрэдніцтва беларускіх пасольстваў у замежжы далі інфармацыю пра Фэст берасцейцаў і запрашалі ўсіх, што мелі дачыненне да нашага горада, якія тут нарадзіліся, жылі, не звважаючы на нацыянальнасць ці веравызнанне. Асноўным прынцыпам была ідэнтыфікацыя з Берасцейшчынай, зямлёй і рэгіёнам. Вось прыехаў спадар Мантвілаў з Францыі, які вучыўся ў рускай гімназіі ў Бярэсці ў міжваенны перыяд, прывёз свае ўспаміны. Сп. Рыбіцкі з Варшавы прывёз з сабой археалагічныя матэрыялы свайго бацькі, які вёў раскопкі на старым горадзе ў 1938—39 гадах.

*— Пры нагодзе юбілею горада, скажыце, у чым заключаецца спецыфіка Бярэсця і берасцейцаў?*

— Берасце праз усю сваю гісторыю адыгрывала важную ролю, асабліва падчас войнаў. Знаходзячыся на памежжы, у жыхароў складалася пачуццё тутэйшасці. Асабіва ў XX стагоддзі часта мянялася ўлада — польская, бальшавіцкая, савецкая, нямецкая. Грамадзяне сталі звонку, ведаючы, што адны адыдуць, другія прыйдуць, а ім трэба выжыць. Такія ўмовы паспрыялі развіццю талерантнасці і ментальнасці беларуса.

*— Дзякую за размову і жадаю вам плёну ў працы на ніве адраджэння старога Бярэсця.*

**Гутарыла**
**ЛЕНА ГЛАГОЎСКАЯ**

ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

*НІНА ГАЛІНОЎСКАЯ*

### МАЛАНЧЫНЫ ЖАРТЫ

Падпальвае неба маланка.
А неба не хоча гарэць.
Ёй дождж тэлеграмай-марзянкай
Загадвае: „Хопіць дурэць!"
Маланка адчайна злуецца.
Успыхвае ўмомант ярчэй.
А гром басавіта смяецца:
— Маланачка, чыркні яшчэ!
— Схавацца ў зямельку мне трэба.
Я вельмі хачу адпачыць...
Вясёлка расквечвае неба.
Сем колераў. Ты палічы.

### ГУСІНЫ КАПЯЛЮШ

Купіла гуска капялюш.
— Ніхто не мерай і не руш!
На вуха шэпча гусаку:
— Хадзем купацца на раку.
Нырнула гуска з галавой.
— Дзе капялюш мой, о-ё-ёй!
Гусак, хутчэй яго лаві!
— Спакойна, гусачка, плыві.
Твой капялюш надзеў шчупак.
А ты прыгожая і так.

### БУДЗЕМ МІРНА ЖЫЦЬ

Каза сказала барану:
— Я аб'яўлю табе вайну,
Калі пашкодзіш лазнякі.
Вунь ты гарэзлівы які!
— Так пагражаць мне нетактоўна.
Мы разбяромся памяркоўна.
У лазняках тваіх бываю,
Але галінак не зрываю.
Не трэба мне твая лаза.
Мы будзем мірна жыць, каза.

### ВАВЁРКА Ў ПАРКУ

Па сасонцы скок ды скок
Рыжы шустранькі звярок.
Хто яго фатаграфуе,
А хто проста так цікуе.
У мяне рука ў кішэні:
Там арэхаў ёсць дзве жмені.
(З дзедам назбіраў улетку.)
Я на снежную сурвэтку
Два арэхі палажыў.
— Гэй, вавёрачка, бяжы!
Апусціўся ўніз звярок,
Хоп арэх і — на сучок.
Раздаецца трэск шкарлупкі.
Як піла, працуюць зубкі.
З'есць ласунак свой вавёрка —
Па ствале, нібыта з горкі,
Апускаецца на снег.
На руцэ маёй арэх.
Асцярожна так звярок
Да маёй далоні скок.
Я сяджу, не варушуся —
Спудзіць рыжачку баюся.
На далонь дыхнуў звярок —
І арэшак у раток.
Скокнуў спрытна на сучок.

Даў вавёрцы сем арэхаў.
Недарэмна ў парк прыехаў.



*Хлопцы з Трасцянкі.* **Фота Ганны Кандрацюк**

*СТАНІСЛАЎ ВАЛОДЗЬКА*

### ПЧОЛЫ І БУТОН

Вось на ганачак вулля
Выйшлі пчолы спакваля.

Паглядзелі: што за дзень!
— Ці не май да нас ідзе?
— Шмат травы ўжо.
— Ды шкада
Шчодрых кветак не відаць!
У кладоўцы хутка ў нас
Мёду скончыцца запас.
— Гэй, сястрыцы, глянньце:
Хто — на лужку вунь там?
— Бутон!

Падляцелі да яго
— Добры дзень, бутончык!
—...
— Го! Ты чаго маўчыш?
— Чаму ты
Ў дзіўны дзень такі
надзьмуты?!
— Прыляцелі мы у госці
Да цябе,
А ты чагосці
Не ў настрої,
Не ў гуморы!.. —
Загудзелі пчолы хорам.

І бутон расцвіў усмешкай:
— Ну і пчолкі! Ну й пацешкі!
За канцэрт такі вось зараз
Пачастуйцеся нектарам!..

## ЗА ШТО ПАКАРАЛІ

Сустрэліся аднойчы Лесавік і Вадзянік і пачалі скардзіцца: у лесе ніякага парадку няма, рачулкі ператвораны ў немаведама што. І вінаваты ў гэтым Чалавек. Ён і лес засмеціў, і ваду забрудзіў.

— Давайма паклічам Чалавека ды зробім яму прачуханку! — прапанаваў Лесавік.

Вадзянік падтрымаў яго.

І вось прыязджае да іх Чалавек на машыне. Сеў на пянёк, закінуў нагу на нагу:

— Чаго клікалі?!

— Твая работа? — спыталі ў адзін голас Лесавік і Вадзянік, паказаўшы на знявечаны лес, на ваду ў рэчцы, чорную як дзёгаць.

Толькі вачыма лыпае Чалавек.

І тады ўзяў Лесавік бярозавы венік, Вадзянік намачыў яго ў вадзе і давай хвастаць Чалавека.

Хвасталі, хвасталі, пакуль Чалавек не паабяцаў стаць сапраўдным гаспадаром і ў лесе, і на рэчцы. Тады толькі адпусцілі.

Чалавек паехаў, а Лесавік з Вадзянікам селі ў ляску каля рэчкі і пачалі чакаць, калі спраўдзіць ён свае слова.

Яны і цяпер чакаюць.

## ДАРУНАК

Яшчэ зямля не ачысцілася ад снегу, а падбел ужо ўспыхнуў.

А пахам сыходзіць усё ж нясмелым. Адразу нават і не скажаш, чым духмяніць. Толькі як разатрэш у руках сцяблінку — здагадаешся: смолкаю! Ледзь улоўны, але надзвычай прыемны пах жывіцы...

Учора вырашыў набраць жменьку падбелу. А прыйшоў на Мурашыную паляну — расчараваўся. Кветкі ўжо надзелі пуховыя берэцікі і здаваліся стомленымі. Яны нібы дакаралі: ну як ты мог спазніцца, чалавеча?

У суседнім лажку ўсё ж адшукаў некалькі залацістых каліўцаў. Выйшаў з лесу, ступіў на тратуар, і мяне тут жа запынілі дзяўчаткі.

— Кветкі? — здзіўлена сказала адна.

Другая паглядала і толькі разгублена ўсміхалася. Трэцяя была з ціхаю просьбай у вачах.

Я нейкі час вагаўся: каторай аддаць кветкі? Той, што з косамі, як у русалачкі? А мо той, што падобная на цыганачку? Ці той, што ўся ў вяснушках?

Падзяліў на траіх.

**ЯРАСЛАЎ ПАРХУТА**

З гісторыі Беларусі

## СТАРАДАЎНІЯ АДЗІНКІ

**Аршын** — мера даўжыні. У XIX — пачатку XX стагоддзя ў Беларусі ўжываўся рускі аршын, роўны 0,71 м.

**Асьміна** — мера аб'ёму сыпкіх рэчываў, роўная прыблізна 51 л.

**Беркавец** — мера масы, роўная 74,96 кг.

**Бочка** віленская — мера аб'ёму сыпкіх рэчываў, роўная 406,54 л.

**Валока** — адзінка вымярэння зямельнай плошчы, роўная 21,36 га.

**Вярста** — адзінка вымярэння даўжыні, роўная прыблізна 1554,6 м.

**Вяршок** — адзінка вымярэння даўжыні, роўная 4,4 см.

**Грыўня** — 1) адзінка вагі каштоўных металаў. важыла прыблізна 195,9 г.
2) грашовая адзінка ў Вялікім княстве Літоўскім вартасцю 48 грошаў (15 кап.).

**Дзесяціна** — адзінка вымярэння зямельнай плошчы. Найбольш пашырана так звана новая (казённая) дзесяціна — 1,0925 га.

**Залатнік** — мера масы, роўная прыблізна 3,9 г.

**Камень** — мера масы, роўная 14,993 кг.

**Карэц** — мера аб'ёму сыпкіх рэчываў і вадкасці. Раўнялася прыблізна 102 л.

**Кварта** — адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў і вадкасці. Раўнялася 0,70577 л.

**Локаць** — адзінка вымярэння даўжыні. Раўнялася 65 см.

**Лот** — адзінка вымярэння масы. Раўнялася 11,71 г.

**Мядніца** — мера аб'ёму сыпкіх рэчываў і вадкасцей. Раўнялася 33,84 л.

**Пуд** — адзінка вымярэння масы. Велічыня яго вагалася ад 15 да 18,7 кг.

**Сажань** — адзінка вымярэння даўжыні, роўная 194,8 см.

**Талер** — буйная сярэбраная манета масаю 28—30 г. На тэрыторыі Беларусі абарачалася з XVI ст.

**Чвэрць** — мера аб'ёму сыпкіх рэчываў і вадкасцей замест ранейшага карца. Раўнялася 101,62 л.

**Шнур** — адзінка вымярэння даўжыні і плошчы. Раўняўся 75 локцям (прыблізна 49 м), як адзінка плошчы — 100 квадратным прутам.

**Фунт** — мера масы. Велічыня яго вагалася ад 360 да 450 г, з 1766 г. — 374,82 г.

## ДЗІК ТРАПЛЯЕ Ў БЯДУ

Пагранічнае начальства запрасіла мяне зірнуць, на якія замкі замыкаецца наша мяжа. А з'явіцца жаданне, можна і даўжэй пабыць на заставах, пазнаёміца з абаронцамі запаветнай рысы.

Гэта было ў навіну, і я даў згоду. Але напярэдадні знік наш сабака. Уночы папрасіўся на двор, як заўсёды, далікатна; у такіх выпадках ён сядзеў насупраць Гаспадынінага ложка і глядзеў ёй у твар, чакаў, пакуль адчуе позірк і абудзіцца.

Дзіка выпусцілі перад ранічкай. Было ўжо з паўдня, а ён не з'яўляўся, хоць больш за дзве гадзіны ў самастойных праходках ніколі не баўіўся і снедаць прыбягаў акуратна.

Адсутнасць спрабавалі растлумачыць проста: спаткаў дзе-небудзь вясельную кампанію хвастатых сваякоў, на правах дужэйшага ўзначаліў яе, узгуляліся і павяліся за горад. Але тым часам мінавала пара абеду, а яго не было і не было.

— Трэба шукаць!

Шукалі па ўсім горадзе. Я пайшоў за велазавод, на адлоўны пункт. Туды звозілі ў будках сабак-бесхацінцаў, а то і хатніх, калі былі без нашыйнікаў. Хапалі ўсіх, што траплялася на вока і не паспявалі ўцячы. Звычайна псы ўнюхвалі набліжэнне будкі здалёк і прыпускаліся прэч, колькі ставала сілы. На маіх вачах пярэстарак-дварняк з суседняга двара, які з людскае ласкі дажываў веку і не кусаўся, бо мог разжаваць хіба што бульбіну, зачуўшы небяспеку, даваў ходу на ўзроўні алімпійскага рэкорду і сігануў цераз плот, дастўпны не менш чым чэмпіёну свету па падскоках угару.

Было малаверагодна, каб наш лёгкі на лапу сабака трапіў у пастку. Сапраўды, на адлоўным пункце, апытаўшы, як выглядае прапажа, цвёрда адказалі:

— Няма і не было.

— А можа б, я паглядзеў?

Даўно непаголенаму, з тварам у чорным прудкім воласе, вартаўніку не хацелася адыходзіцца ад пячуркі.

— На ключы, глядзі. Толькі не павыпускай.

Пяць ці шэсць зняможаных, запалоханых сабачых душ тулілася ў даўгаватай халоднай адрыны. Яны не толькі не памкнуліся ўцякаць, але яшчэ шчыльней збіліся ў кучу каля задняй сцяны. Не, мой псіна даўно б пазнаў мяне па кроку і падаў голас.

Адчыняць беглі ўсёю сям'ёю. Дзік ляжаў на снезе каля ганка, быў памкнуўся ўстаць — не змог, толькі крыху пасунуўся на чэравс, падпіраючыся лапамі.

Я ўнёс яго ў дом. На шыі сабакі замест фасоністага нашыйніка з мядзянай насечкаю быў туга закручаны драцяны абруч. Другі абруч з яшчэ таўсцейшага дроту апяразваў тулава пад пярэднімі лапамі.

Да яго нельга было дакрануцца: скура на спіне і сцягняках уся ў пісагах і ўзялася гноем, сімпатычнай морды не пазнаць, распухла, адно вока зусім заплыло, другое — штохвіліны плюшчылася.

# ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

Другое адрынкі я не адчыняў, пад дзвярыма свіснуў, гукнуў па імені. Цішыня, няма і тут.

— Праўду казаў, — падзякаваў я няголенаму.

— А падзяка? — мыркнуў ён.

— За што?

— За тое, што няма. А калі прыбудзе, я яго прытрымаю. Заходзь.

Доказ быў варты некалькіх рублёў.

Агледзіны інстытутаў, дзе ў даследчых мэтах прымалі валачашчых сабак, таксама не далі вынікаў.

У клопаце, амаль у жалобе, мінуў дзень, а за ім другі. Шукаць ужо не было дзе, чакаць — не ставала сілы. І я сабраўся ехаць да пагранічнікаў.

Мінавала яшчэ адна бяссонная ноч. Недзе блізка каля акна пачулася хрыплае „цяў!".

У якое пекла трапіў, што вытваралі з ім? І, галоўнае, як вызваліўся адтуль? Няйначай, недзе злавілі і мерыліся ўзяць на прывязь. Сабака не даваўся, напэўна, пусціў у ход зубы, тады яго білі, пакуль не знясілеў. Потым, не спадзяваўшыся на звычайны ланцуг, абматалі ў некалькі столак дротам.

Якія яшчэ пакуты выцерпеў небарака, мы толькі здагадваліся. Зразумела было адно, сабака не здаваўся, стаяў за сябе, таму і быў гэтак скатаваны. Але ўсё ж вырваўся, выграбся, выплішчыўся неяк са зняволення, прыпоўз у свой дом.

З дапамогай абцугоў я перакусваў смяротныя драты, сабака ўздрыгваў ад болю, не вішчаў, не меў сілы, толькі час ад часу мордаю адпіхаў руку, быццам прасіў: пакінь, не чапай, няўжо ты не адчуваеш, як мне баліць.

Не чакаючы ветэрынара, калі яго яшчэ ўдасца выклікаць, пачалі даваць рады самі, найбольш Гаспадыня і Наташа. Іна калацілася ў начной кашульцы, стоячы на парозе ў кухню, і паўтарала праз слёзы: „Ой-ой! Яму ж балюча!"

А мы пераводзілі бінты, абціраючы бруд і гной, абмывалі марганцоўкаю адкрытыя раны і прысыпалі крыху стрэптацыдам.

— Ну, Дзічок, — падахвоціў я, — патупаем на месца...

Зачуўшы знаёмую каманду „на месца", Дзік паспрабаваў падняцца, але адразу ж абсунуўся на падлогу. Давялося зноў браць яго на рукі і несці. Падсцілка была даўно падбіта і перасланы чыстым, я асцярожна паклаў яго, усе селі наўкруга, хто дзе прыткнуўся, гаварыць не маглося. Да адчынення лячэбніцы заставалася амаль уся ноч, а што можам зрабіць мы болей? Чым дапамагчы?

— Дадзім яму чаго-небудзь смачнага! — дадумалася Іна і прынесла прыхаваную для школы цукерку.

Сабака ляжаў мордаю на хату і не зрабіў ніводнага руху да запрапанаванай спакусы. Не ўзяў есці, хоць каля самага носа паравала міска з улюбёнай поліўкаю. Толькі калі падсунулі грэтага малака, хлебтануў праз сілу і заплюшчыў незапухшае вока.

Разгульваўся маразок за акном. Ноч знікала, мне было пара на цягнік. На развітанне нагнуўся над Дзікам, пагладзіў каля вушэй:

— Праўся!

Вока расплюшчылася, хвост слаба варухнуўся: „Выбачай, маўляў, нават за парог правесці не магу"...

*(працяг у наступным нумары)*

**МАКСІМ ЛУЖАНІН**



*Прывітанні ад Касі з Віцебска!*
Фота М. Лукшы

Беларускія музычныя інструменты

## ДУДА

Дуда — беларускі народны духавы язычковы інструмент. Мае аналагі ў музычным інструментарыі многіх народаў свету. Адметная дэталь дуды мех — паветраны пузыр, які вырабляецца са скуры казы або цяляці. Да меха прымацаваны: трубачка-соска, праз якую ён запаўняецца паветрам; жалейка з 5-7 ігравымі адтулінамі, на якой дудар выконвае мелодыю: 1-3 трубкі („гукі"), якія „гудуць" на нязменнай вышыні і ствараюць своеасаблівы акампанемент. Гучанне дуды моцнае, рэзкае, пранізлівае.

У Беларусі дуда вядома з XV стагоддзя. Была распаўсюджана на Віцебшчыне, часткова на Міншчыне і Гродзеншчыне. Выкарыстоўвалася як сольны, а таксама як ансамблевы інструмент. Дуда гучала разам са скрыпкай, цымбаламі, бубнам або іншымі дудамі. У жыцці беларускай вёскі дудар быў значнай асобай. Ён весяліў людзей музыкай, быў давераным маладых на вяселлі, іграў танцы ў карчме, на вечарынках. У рэпертуары дудароў пераважалі вясёлыя спевы, танцавальныя найгрышы. Нярэдка пад акампанемент дуды-„весялухі" спявалі прыпеўкі.

У пачатку XX стагоддзя дуда была паўсюдна выцснута гармонікам. У апошні час робіцца спробы рэканструяваць і ўдасканаліць старажытны музычны інструмент, каб увесці яго ў нацыянальныя самадзейныя і прафесійныя ансамблі і аркестры фальклорнага напрамку.

**Н. ЯКАНЮК**

Беларускія народныя гульні

## МЫШКА

Гуляць можна на пляцоўцы або ў памяшканні, дзе ёсць лаўкі або пастаўленыя ў адзін рад крэслы. Мышка — гэта невялікі, плоскі прадмет (манета, гузік, каменьчык і інш.). У гульні можа ўдзельнічаць 5—15 чалавек. Гуляючыя па дамоў-ленасці або пры дапамозе лічылкі

*Тут на лаўцы*
*Дзеці селі,*
*Тут вароны паляцелі.*
*Тут прыселі ля варот,*
*Гэта маці,*
*Гэта кот*

выбіраюць маці і ката. Кот адыходзіць убок, а дзеці садзяцца і на калені кладуць рукі далонямі адна да адной.

Маці, заціснуўшы мышку таксама паміж складзенымі далонямі, абыходзіць гуляючых і, імітуючы перадачу мышкі, праводзіць сваімі рукамі паміж далонямі кожнага іграка, пры гэтым гаворыць: „Гэтаму не дала, гэтаму не дала, гэтаму падумаю, гэты няхай пачакае" — і непрыкметна перадае каму-небудзь мышку. Абышоўшы гуляючых, яна кліча ката, які павінен адгадаць, у каго мышка. Калі кот пакажа на іграка, у якога мышка, той становіцца катом, а былы кот займае месца іграка. Не адгадае — адыходзіць убок, і гульня працягваецца. Кот, які не знайшоў мышку пасля трох спроб, выбывае з гульні, а яго месца займае ігрок, у якога была мышка ў апошні раз.

## НАРОДНЫЯ ЖАРТЫ

### Здагадаўся

Маленькі Рыгорка пытаецца ў свайго сябрука:

— Васька, а ты ведаеш, чаму ў зайца вушы доўгія?

Васька доўга думае, а потым кажа:

— А-а, здагадаўся! Заяц, калі быў маленькі, не слухаўся свайго таты.

### Хто каго?

Маленькі Віця не хоча спаць. Бацька садзіцца ля яго ложка і пачынае расказваць яму казкі. Расказвае гадзіну, другую. Нарэшце ў пакоі становіцца ціха. Маці асцярожна прыадчыняе дзверы і пытаецца:

— Ён заснуў?

— Заснуў, мама, — шэптам адказвае сын.

### Нешта падобнае

Настаўнік рашыў праверыць вучняў на знаходлівасць і звярнуўся да аднаго з іх:

— Хто раз апячэцца, баіцца агню. Скажы што-небудзь падобнае, Пеця.

— Каго раз памылі, той баіцца вады, — адразу ж выпаліў Пеця і сеў на месца.

### Каб не паваліцца

Маленькая Ніна ідзе па сходках з кубкам у руках.

— Асцярожна, Ніначка, не паваліся, — гаворыць ёй мама.

— Не, не павалюся — я ж за кубак трымаюся, — супакойвае яе дзяўчынка.

### Дзе працуе цётка?

У пакоі паставілі буфет. Чатырохгадовы Ваня зазірнуў у адно аддзяленне, у другое.

— А дзе ж цётка Нюра? Яна ж у буфеце працуе!

### Палахлівы тата

— Мой тата вельмі палахлівы.

— Чаму ты так думаеш?

— Калі мы ідзем па вуліцы, ён заўсёды трымаецца за маю руку. Баіцца, што заблудзіцца!

### Яшчэ не выпілі

Маці: Ты змяніла ваду рыбкам у акварыуме?

Дачка: Не, яны яшчэ не выпілі тую, што я ім учора наліла.

Вяртанне нацыянальных каштоўнасцяў

# ІВАН ЛУЦКЕВІЧ

Імя Івана Луцкевіча як грамадскага і палітычнага дзеяча дастаткова вядомае і таму хачу звярнуць увагу на яго збіральніцкую дзейнасць ды на заснаваны ім музей. Цікавасць да гісторыі і старажытнасцяў абудзілася ў Луцкевіча ўжо падчас вучобы ў гімназіі ў Лібаве. Увесь вольны час ён прысвячаў збіранню старажытных прадметаў, на што значны ўплыў меў вядомы знаўца беларускіх старажытнасцяў, менскі археолаг-аматар, Генрых Татур. Ствараючы сваю калекцыю Іван Луцкевіч меў за мэту сабраць матэрыялы, якія далі б магчымасць вывучэння матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа, перш за ўсё народнага мастацтва часоў Вялікага княства Літоўскага. У 1902 го-дзе Іван Луцкевіч паступіў у маскоўскі Археалагічны інстытут, які даваў грунтоўныя веды ў галіне тэорыі і практыкі працы з помнікамі матэрыяльнай культуры. Паспяхова закончыўшы вучобу, дзеля ўдасканалення ведаў, Іван Луцкевіч накіроўвасцца за мяжу, адкуль вяртаецца не толькі з энтузіязмам, але і салідна падрыхтаваны да сваёй збіральніцкай працы. Зборы маладога вучонага хутка папаўняюцца ў выніку археалагічных раскопак, шматлікіх этнаграфічных вандровак і кантактаў з іншымі калекцыянерамі. Прыкладам настойлівасці калекцыянера можа быць наступны факт. Калі стала вядома, што ў Кракаве знаходзіцца Статут Вялікага княства Літоўскага і няма магчымасці атрымаць візу ў аўстрыйскую Галіцыю, Луцкевіч нелегальна перайшоў мяжу і вярнуўся з каштоўным старадрукам.

У 1906 годзе Луцкевіч прадаў каштоўную калекцыю ордэнаў, каб фінансаваць выданне першай легальнай беларускай газеты „Наша доля". Пра газету згадваю толькі таму, што памяшканне рэдакцыі „Нашай долі", а затым „Нашай нівы", стала першым агульнадаступным беларускім музеем. Наведаўшы рэдакцыю ў 1912 годзе пісьменнік Змітрок Бядуля пісаў: „На сценах вісяць абразы беларускіх даўнейшых князёў, старасвецкія беларускія вопраткі, шаблі, шаломы і панцыры ваякаў XVI стагоддзя... тканіны народнай беларускай творчасці, слуцкія паясы, дываны, разьба, музыкальныя інструменты: дуда, цымбалы, пастырская труба, жалейка. У шафах ляжаць скарбы мінулых гадоў: манеты, медалі, пячаткі, кнігі беларускай пісьменнасці. Жывая паэма старыны".

Іван Луцкевіч, які ў адрозненне ад свайго літаратурна адоранага брата Антона меў прадпрымальніцкі спрыт, ад самога пачатку хацеў ператварыць музей у агульнагрмадскі набытак. Увосень 1912 года на старонках „Нашай нівы" ён апублікаваў заклік стварыць нацыянальны музей. „Клічам усіх, хто спагадае адраджэнню 10-мільённага народа памагчы нам у збіранні музея... Апрача рукапісаў і старых друкаў... трэба збіраць старыя абразы маляваныя на палатне, на дошках, на блясе; выразаныя з дрэва і металю фігуркі, клішы да друкавання рысункаў, старую зброю і грошы, старасвецкую вопратку сялян, мяшчан і шляхты, сялянскія вырабы, на якіх ёсць цікавы рысунак тканы ці выразаны; старасвецкія вырабы са шкла, парцэляны, гліны... даўнейшыя коўшыкі, яндоўкі і іншыя".

Шырокая публіка пазнаёмілася са зборамі Луцкевіча на краёвай выставе хатніх промыслаў і народнага мастацтва літоўска-беларускіх губерняў у 1913 годзе ў Вільні. Перш чым адгукнулася на яго заклік грамадства, Луцкевіч ужо стварыў салідную аснову будучага музея. У ім знайшліся аддзелы этнаграфіі, археалогіі, мастац-тва і рыштунку, а таксама аддзельная бібліятэка старадрукаў і рукапісаў.

На пачатку першай сусветнай вайны губернскія ўлады прапанавалі Луцкевічу эвакуаваць ягоны збор у Расею і вылучылі нават дзеля гэтага спецыяльны вагон. Луцкевіч адмовіўся. У кантэксце ўсёй ягонай дзейнасці не будзе перабольшаннем сказаць, што ў цяжкі час ён сапраўды хацеў заставацца са сваім народам і каб ягоная калекцыя заставалася ў Беларусі. Перад сваёй смерцю на хваробу нашых нацыянальных геніяў — сухоты, Луцкевіч паспеў перадаць усе свае зборы, згодна са сваім жаданнем, ва ўласнасць Беларускага навуковага таварыства, інакш кажучы — ва ўласнасць народа.

Праца ў кірунку ўпарадкавання калекцыі Івана Луцкевіча была распачата Беларускім навуковым таварыствам пасля 1921 года. З гэтага часу пачынаецца і прыток новых экспанатаў, набытых або ахвяраваных прыватнымі асобамі. Усё гэта ў невялікай ступені змяніла характар і колькасны стан збораў, якія ў асноўным засталіся плёнам працы аднаго чалавека — Івана Луцкевіча.

Рукатворным помнікам гэтаму прагматычнаму дзеячу беларускага адраджэння стаў Беларускі музей, які існаваў у Вільні ў 1921—1946 гадах. Ён набыў вядомасць аднаго з найбуйнейшых сховішчаў матэрыяльных сведкаў беларускай гісторыі і ўзораў беларускага мастацтва. Зараз яго фонды — дзяржаўная ўласнасць незалежнай Літвы, але не падлягае ніякаму сумненню, што, згодна з воляй стваральніка музея, ён павінен належаць беларускаму народу.

**а. КАНСТАНЦІН БАНДАРУК**

# ПАДАРОЖНАЕ РАЗВАЖАННЕ

Зусім неспадзявана быў я сёлета і ў Канадзе, і ў Беларусі. Хаця я паляк, але блізкія мне і справы беларусаў ды ўкраінцаў. У Канадзе, а дакладна ў Калгары, я многа даведаўся аб жыцці палякаў і ўкраінцаў у гэтым горадзе і ва ўсёй краіне, а амаль нічога пра беларусаў. Аднак у міжнародным аддзеле гарадской бібліятэкі напаткаў я васьмідзесяцігадовага чалавека, які чытаў польскую газету. Я ўзяў расейскую газету, бо польская была адна і гэты незнаёмы ўзяў яе першы. Ён заўважыў газету ў маёй руцэ і сказаў:

— Здравствуйте!

Я адказаў: „Здравствуйте", але ўбачыўшы польскую газету ў яго руках запытаў па-польску:

— Pan Polak?

— Nie, ja — internacjonał.

Здзіўлены запытаў я яго:

— Co to znaczy?

Тады ён адказаў, што ён беларус з-пад Картуз-Бярозы.

— Чаму тады вы інтэрнацыянал, а не беларус?

І тут пачуў я так тыповае для беларусаў паясненне, што Беларусь ніколі незалежнай дзяржавай не будзе і беларуская мова не будзе дзяржаўнай. Я, паляк, прабаваў супрацьстаўіцца таму нацыянальнаму песімізму, але без поспеху.

Можна сказаць: адзін прадстаўнік аб нічым яшчэ не сведчыць. Аднак, пабываўшы ў Беларусі, я пераканаўся, што той беларус у Канадзе думае таксама, як большасць беларусаў на сваёй зямлі. На вёсках яшчэ можна пачуць беларускую мову, але не чуў я яе ў горадзе. Праўда, надпісы на вуліцах цяпер у большасці беларускія, але можна сказаць, што на гэтым канец. Я не толькі не чуў беларускай мовы на вуліцы і ў магазінах, але і мае спробы гаварыць па-беларуску, праўда, няўдалыя, спатыкаліся толькі са здзіўленнем.

Беларусы! Калі вы самі не будзеце змагацца за беларускасць сваёй зямлі, ніхто за вас, і без вас, рабіць гэтага не будзе, а, нават, рабіць не можа!

**УЛАДЗІСЛАЎ КЛІМЭК**

## ЦАРКОЎНЫ МУЗЕЙ

— У найстарэйшым праваслаўным манастыры св. Ануфрыя ў Яблачыне на паўднёвым Падляшшы паўстае першы ў нашай краіне царкоўны музей, — паінфармаваў ігумен **а. Рафаіл**. — Адкрыццё гэтай установы, створанай у гэтым годзе праваслаўнымі епіскапам Люблінскім і Холмскім **Авелем** і міністрам культуры і мастацтва **Казімежам Дэймкам** запланавана на снежань г.г. Калекцыя музея будзе налічваць каля тысячы экспанатаў. Знойдуцца сярод іх іконы, літургічныя аблачэнні і багаслужэбныя кнігі. Сярод экспанатаў знойдзецца кніга XVII стагоддзя на старацаркоўнай мове і на сто гадоў старэйшыя іконы. Большасць экспанатаў паходзіць з уласных збораў манастыра і праваслаўных прыходаў.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

# БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫН У ГАЙНАУЦЫ

*Працяг са стар. 1*

— А гэта чаму? — здзіўляецца дзеўка.

— Няхай так пра цябе думае, — адрэзвае маці.

Або:

— У мяне быў безліч прыгожых, разумных і багатых кавалераў, а я іх усіх пакінула для цябе аднаго, — дапякае жонка свайму мужу.

— Ой, як шкада, што я да іх не належу, — тлумачыцца муж.

„Крынічка", менавіта за гэтыя анекдоты атрымала самыя бурныя апладысменты.

Яркім ўдзельнікам фэстыну быў папулярны гурт „Рэаль".

— Цешыць нас тое, што людзі хочуць нас слухаць. Гэта мабілізуе нас складаць наступную касету з запісамі. Сёння продаж новай касеты „Ой пры лужку" ідзе вельмі добра. Увогуле, за тыдзень мы прадалі 2 тысячы касет, — кажа адзін з братоў Кавальскіх.

Калі ўзяць пад увагу „гандаль беларушчынай", то касета братоў Кавальскіх цешыцца небывалым камерцыйным поспехам.

На фэстыне ненайлепш спраўлялася гукаўзмацняльная апаратура. Сімпатычна і бліскуча выступілі бельскія „Васілёчкі", „Тыневічанкі" і „Арляне" з Орлі.

Калектыў „Арляне" існуе ўжо 49 гадоў. Спяваюць у ім: Яўгенія Хмялеўская, Ніна Шыманская, Марыя Адзіевіч, Яўгенія Хаміцкая, Ніна Гаўзе, Аляксандр Кубаеўскі.

— Зараз маем праблему з інструктарам. Мы ўсе хацелі б і далей працаваць з Сасновічам, а нам цяпер хочуць даць другога. Патрэбная нам дапамога БГКТ, каб усё ж такі вярнулі нам спадара Сасновіча, — гавораць арлянскія кабеты.

Праз год калектыў будзе святкаваць 50-годдзе. Жанчыны баяцца, што калектыў можа распасціся, бо такія змены інструктараў, без кансультацыі са спевакамі моцна аслабляюць арганізацыю працы.

„Арляне" зрабілі прэм'еру песні „Орля", якую напісала Ірына Кебіч з Гародні.

Фэстын вяла Валянціна Ласкевіч — як адзначыў Янка Сычэўскі — заслужаны працаўнік польскай і беларускай культур.

Публіка, мабыць, была змучаная жарой, бо не надта хацелася ёй дарыць заслужаныя воплескі. У групах мужчыны размаўлялі аб засусе, вадзе, гаспадарцы. Многія гайнаўяне маюць сем'і ў навакольных вёсках і сельскія справы моцна іх трывожаць і хвалююць.

— Міша, ты ўжэ повозіў збуожэ?

— Нэ было чого там возіті, от троху побавіўся і ўсё, — гаварылі дзядзькі на сваёй роднай мове.

— Ужо то будзе канец свету, — талкавалі 80-гадовыя бабулі.

— У Пісані пісало, што найперш будзе дабытак крывавіць. Ну і будуць каровы з голаду здыхаць і пачнуць крывавіць, — філасофствавалі „пачорнаму" бабкі, начытаўшыся прапаведніцкай літаратуры.

Цяжэй ішоў продаж беларускіх кніжак. Свае кніжкі з аўтографам прадавалі Мікола Гайдук, Віктар Швед, Янка Целушэцкі. Цікавая з'ява — на вясковых фэстынах прадавалася намнога больш кніжак, чым у Гайнаўцы. Некаторыя людзі спыняліся пры століку, дзе па прынцыпу латарэі можна было атрымаць цікавую кніжку ці гадзіннік з Пагоняй. Латарэю абслугоўвалі сімпатычныя гайнавянкі — Галіна Маліш і Еля Вішнеўская.

Не лёгкая, каласальная задача была ў Міхала Голуба. Збіраў ён грошы на пабудову Музея. Дзякуючы ягонай настойлівасці назбіралася поўная скарбонка 5-ці- і 10-цітысячных банкнотаў. Людзі па-рознаму адносяцца, калі падыходзяць да іх са скарбонкай. Адны даюць адразу, іншыя „па-просьбе", а ёсць і такія, якія кажуць: „Не дам, бо вы прап'еце" або „Дакуль то вам будзем даваць".

На фэстыне не надта можна было растрацідь грошы. Большасць мясцовых гандляроў з аўтакрамамі паехалі ў недалёкі Стары Корнін, дзе адбывалася вялікае царкоўнае свята — Ганна. Толькі з адной аўтакрамы можна было купіць напіткі і марожанае. У гайнаўскіх аптовых складах скончыліся напіткі, таму іх асартымент быў моцна абмежаваны. А распаленая жарой і песнямі публіка напэўна з любасцю купіла б халоднае піўцо.

**ГАННА КАНДРАЦЮК**




*БАРЫС РУСКО*

**Геаметрыя стварання**

У белай цішы,
у чырвоным полымі,
у мальбе блакіту,
у зялёнай мове
з'явілася цела.
І бачаць вочы з-пад складак
прасторы.
І чуюць вушы праз гуканепранікальную
бездань.
І без падказаў,
і без наказаў, як у добрай школе.
А ўсё плыве ў спазмах,
пятля ў пятлі, і круг дарогі,
а мо спіралі след на камені пусткі,
а мо экзамен па геаметрыі стварэння,
што Час крылом мяце ў мех Прасторы.

**Вечар**

Вір цішы сее пачуцці.
Нават птушка спозненая
на дыбачках ідзе ў гняздо.
А спуджаныя цені
ў крывавым патоку сонца
тлумна стаяць на каленях.
У дысцыплінаваны свет
выпаўзла з-пад небакраю
панылая ноч.

* * *

Калі ты ў гняздзе кондара,
не прасі ў мяне паратунку,
не альпініст я.
Перуноў малі ласкі —
да касцей абскубуць птаха.
А са скалы спаўзці
таленту табе стане.

# УСПЕННЕ ПРАСВЯТОЙ БАГАРОДЗІЦЫ

Пасля Узнясення Ісуса Хрыста Прасвятая Дзева Марыя, па запавету Свайго Сына, знаходзілася пад апекай Святога Апостала Іаана Багаслова (Іаан, 19, 26—27).

Часта падавалася Яна на Елеонскую Гару, дзе малілася Свайму Сыну. Аднойчы з'явіўся там падчас Яе малітвы Архангел Гаўрыіл, які служыў Багародзіцы з дзяцінства. Прынёс ён вестку, што праз тры дні Яе жыццё зямное скончыцца і адыдзе Яна да Хрыста Бога, у вечнае жыццё. У сапраўднасці смерць будзе быццам кароткі сон, пасля якога Яна хутка прачнецца, устане і, адганяючы смерць ад вачэй як дрымоту, пабачыць пры абліччы Госпада несмяротную славу і жыццё. Багародзіца з радасцю ўспрыняла словы Гаўрыіла, а той, у знак усяго што перадаў, уручыў Ёй пальмавую галінку, якую павінны несці перад жалобнай працэсіяй з целам Багародзіцы.

Па асабліваму Божаму Промыслу Прасвятая Дзева, якая нарадзілася па законах натуры, Сваё зямное жыццё таксама закончыла ў адпаведнасці з гэтымі законамі. Гэта мела паказаць людзям, каб і яны не палохаліся пайсці на неба гэтымі ж варотамі смерці, якімі прайшла і Нябесная Царыца. Гэтым самым прыняла Яна лёс усіх, якія нарадзіліся на зямлі.

Так расказвае аб гэтым Святы Іаан Дамаскін: „Трэба, каб тое, што было створанае з зямлі, у зямлю вярнулася, а потым увайшло на неба, прымаючы ў зямлі найчыстшае жыццё шляхам адлажэння ў яе цела; трэба, каб цела цераз смерць, так як золата цераз агонь у печы, ачышчаючыся з усяго змрочнага і нячыстага, паднялося з магілы бяссмертным, чыстым і прасветленым светласцю бяссмертнасці".

Апосталы, якія ў той час прабывалі ў розных краінах, у цудоўны спосаб былі перанесены ў Ерусалім, каб удзельнічаць ва Успенні Прасвятой Багародзіцы. Па Яе волі цела мела быць пахаванае ў Гефсіманіі паміж магіламі бацькоў — праведных Іаакіма і Анны — і Св. Іосіфа Абручніка. Усіх, якія прыбылі ў дом Св. Іаана Багаслова, і, плачучы, развіталіся з Багародзіцай, завярала Яна, што пасля адыходу да Свайго Сына і Бога, не пакіне іх без Сваёй апекі. Яна блаславіла іх па чарзе і малілася за іх Госпаду. Потым Яна легла на падрыхтаванае і прыбранае ложа, чакаючы апошнюю хвіліну Свайго Блаславёнага адыходу. Раптоўна незвычайнае святло азарыла дом і бачны ўсім Гасподзь Ісус Хрыстос з незлічонай колькасцю анёлаў і святых сышоў да ложа Багародзіцы і прыняў у Свае рукі Яе душу. Прасвятая Дзева, радуючыся, заснула салодкім сном. Яе душа на руках Госпада, у суправаджэнні анёльскіх спеваў, была занесена на неба, што бачылі таксама і Апосталы. Цалуючы цела Багародзіцы, Апосталы асвячаліся такім чынам і ў сваіх сэрцах



адчувалі ўздзеянне Божай ласкі. Поўныя духовай радасці прыступілі яны да пахавання прачыстага цела Багамаці. Яе смяротнае ложа неслі яны на сваіх плячах, а ўсю працэсію акружала бліскучае прамяністае воблака, якое перасоўвалася за імі. Пасланыя ад першасвяшчэннікаў слугі не маглі перашкодзіць у гэтым жалобным шэсці. Толькі адзін з яўрэйскіх свяшчэннікаў, Афоній, які апынуўся на шляху працэсіі, палаючы злосцю да ўсяго, што было звязанае з Хрыстом, пахацеў выкінуць цела Багародзіцы на зямлю. Калі ён толькі дакрануўся да ложа з целам Багародзіцы, нябачны анёл адсек яму кісці рук, якія засталіся ў тым месцы, да якога даткнуліся. Убачыўшы гэта, ён паверыў у Хрыста, пакаяўся ў грахах і прыклаўшы рукі да адсечаных кісцей, дзякуючы хадайніцтву Багародзіцы, быў аздароўлены. Многія хворыя, якія з верою і пакаяннем прыступалі да ложа Прасвятой Дзевы, атрымоўвалі выратаванне.

У Гефсіманскім Садзе Апосталы паклалі цела ў магільную пячору, а ўваход закрылі каменем. Потым трое сутак спявалі пры магіле псалмы. На трэці дзень прыбыў да іх Апостал Фама, якога не было на пахаванні. Быў ён вельмі засмучаны тым, што не развітаўся з Божай Маці і не атрымаў Яе блаславенства. Тады Апосталы адхінулі камень, але замест цела знайшлі там толькі пахавальныя пакрывалы. Здзіўленыя Апосталы сталі маліцца Богу, каб Ён адкрыў ім, што сталася з целам Божай Маці. Неўзабаве атрымалі адказ. Увечары, пасля трапезы, нечакана пачулі яны спеў анёлаў і пабачылі Багародзіцу, якая стаяла ў паветры акружаная анёламі і сказала ім, што будзе з імі назаўсёды.

З таго часу Апосталы самі паверылі, а потым навучылі верыць Святую Царкву, што Прачыстая Багародзіца на трэці дзень пасля пахавання была ўваскрэшана Сваім Сынам і ўзята на неба. Паўторна ўваходзячы ў пячору, Апосталы ўзялі плашчаніцу як доказ, што Багародзіца ўстала з магілы, і як пацяшэнне для тых, якія пасля Яе адыходу апынуліся ў смутку і жалю. Так як Хрыстос уваскрэс на трэці дзень і ўзышоў на неба, так і Сваю Маці ўваскрэсіў Ён трэцяга дня і ўзяў да Сябе на неба. Гасподзь замарудзіў прыбыццё Апостала Фамы, каб усе паверылі ва ўваскрэсенне Багародзіцы, так як раней цераз гэтага Апостала паверылі ва ўваскрэсшага Хрыста. Прадказваў гэтае прарок Давід у адным са сваіх псалмаў: „Вырушы ж, Госпадзе, да месца супакою Твайго, Ты і скінія моцы Тваёй" (Псалм 131, 8).

Кароткае прабыванне цела Багародзіцы ў магільнай пячоры і перанясенне Яе душой і целам на неба стала прычынай таго, што свята назвалі Успеннем. Было яно ўстаноўлена дзеля ўсхвалення Багародзіцы і Яе Успення. Святая Царква заклікае нас, каб мы ў гэты дзень прыбылі да Яе магілы і ўшанавалі Яе, а таксама ўслаўляе Прасвятую Дзеву, якая ўзяла пад сваю апеку людскі род і хадайнічае за яго ў Госпада. Успеннем Багамаці Царква навучае нас, што смерць не з'яўляецца канцом нашага жыцця, але пераходам з зямлі на неба, са смерці і распаду ў вечную бяссмертнасць.

Гэтае свята мае свой пачатак недзе ў IV стагоддзі. Адзначалі яго тады па-рознаму ў розных краінах — 15 або 18 жніўня. Канчатковая дата — 15 жніўня, а ў нашай рэчаіснасці 28 жніўня — была ўведзена ў 582 годзе.

Варта нагадаць, што ў 1950 годзе папа Пій XII аб'явіў догмат аб непасрэдным прыняцці Маці Божай на неба з Яе целам, што не мае абгрунтавання ў рэчаіснасці і знаходзіцца ў супярэчнасці з навукай Праваслаўнай Царквы.

С.Н.

# НАШЫ КАРАНІ

## LXIX. ПАЧАТКІ НАСТУПЛЕННЯ

Гэтак званыя „Зыгмунтавы часы" (ад пачатку панавання вялікага князя лі-тоўскага і караля польскага Зыгмунта Старога ў 1506 г. і да смерці ў 1572 г. яго сына Зыгмунта Аўгуста) заслужана лічацца эпохай росквіту беларускай культуры, як „залатым векам". Але адначасова нельга забываць і пра тое, што і ў гэтыя 60 гадоў, хаця і з крыху меншым імпэтам, наступленне каталіцкага Каралеўства Польскага на ў асноўным праваслаўную Старабеларускую дзяржаву (Вялікае княства Літоўскае) не спынялася. Доказ таму — Люблінская унія 1569 г., якая была фактычным завяршэннем палітычнага, вайсковага і гаспадарчага падпарадкавання Беларускай дзяржавы Польшчы.

Вяртаючыся крыху ў мінулае, неабходна заўсёды памятаць, што пачаўшы з 1385 г. (Крэўская унія) на працягу наступных 400 гадоў, бо аж да трэцяга падзелу Польшчы Аўстрыяй, Прусіяй і Расеяй у 1795 г., усе вайсковыя, гаспадарчыя і інтэлектуальныя высілкі і намаганні кіруючых Польшчай элітаў былі нацэлены амаль выключна на апанаванне, зняволенне, паланізацыю і злучэнне з Польшчай у дзесяць разоў большага за яе абшару і ў шэсць разоў большага чужароднага ёй па мове, культуры, веравызнанню і традыцы насельніцтва Старабеларускай дзяржавы. Гэтая экспансія Польшчы поўнасцю адпавядала няспынным высілкам рымскіх папаў падпарадкаваць іхняй уладзе праваслаўны Усход, паводле наказу папы Баніфацыя VIII ад 1302 г., што „для збаўлення кожнай чалавечай істоты неабходна падпарадкаванне рымскаму біскупу". З цягам часу культ бязгрэшнасці і абсалютнай беспамылковасці рымскіх пап і рымска-каталіцкага Касцёла прыняў пачварныя памеры. Асобу жывога панаючага папы і іншых касцельных іерархаў богазневажальна, блюзнерча зраўнялі з Ісусам Хрыстом і Апосталамі. На тых, хто адважыўся сумнявацца ў „адзінаправільную веру рымска-каталіцкую" і папу як наступніка Хрыста на зямлі, чакалі „святая" Інквізіцыя, потым „святое" Афіцыум са сваімі тайнымі судамі, сырымі цёмнымі падзямеллямі, катавальнямі, спальваннем жыўцом на палаючых стосах. Найважнейшай „місіяй" гэтых „святых" арганізацый было праследаванне і знішчэнне непакорлівых іншаверцаў і перш за ўсё „схізматыкаў", гэта значыць праваслаўных. На бязлітасных і лютых выканаўцаў гэтых „святых" заданняў папа рымскі Павел III у 1540 г. вызначыў ордэн Пра-святога Сэрца Ісусавага — вядомых усім езуітаў.

У 1564 г. езуіты паявіліся ў Польшчы і неўзабаве праніклі на беларускія землі. Яны адразу прыступілі да падрабязна прадуманага, доўгатэрміновага, сістэматычнага і шматнапрамкавага інтэнсіўнага дзеяння. Яны не пайшлі „ў народ", але перш за ўсё атакавалі стырно ўлады ў краіне і ўладальнікаў дум, апанавалі эліты ўлады на чале з каралём, а праз захоп асветы падпарадкавалі сваёй уладзе амаль усё грамадства. І свайго дабіліся. Ужо за панаванне Зыгмунта III Вазы (1587—1632) сам кароль і ўсе бліжэйшыя і далейшыя яго супрацоўнікі былі цалкам падпарадкаваны езуітам. Пацвердзіў тое сам Зыгмунт III Ваза, сцвярджаючы: „Лепш няхай гіне Рэч Паспалітая, прапададзім ты і я, абы толькі святая вера рымска-каталіцкая не пацярпела ўрону".

Езуіты пры садзеянні караля і ўсебаковай дапамозе каталіцкай іерархіі стварылі густую сетку школ усіх узроўняў і за некалькі дзесяцігоддзяў выхавалі ў большасці грамадства Рэчы Паспалітай непахіснае перакананне пра перавагу каталіцызму над усімі іншымі веравызнаннямі, мабілізавалі не-злічоны натоўп гатовых на ўсё каталіцкіх фанатыкаў. Падляшскую моладзь (заможную і са збяднелага баярства) езуіты навярталі ў сваіх школах у Драгічыне, Бярэсці, Гародні.

Езуіты аднавілі ідэі Ліёнскай, Ферарскай і іншых уній (унію яны разумелі як прыняццё праваслаўнымі каталіцызму і падпарадкаванне іх уладзе папы рымскага з магчымасцю захаваць уніятамі некаторыя формы праваслаўнай абраднасці). Яны пераканалі і заахвоцілі да ўвядзення уніі тадышнія пануючыя эліты на чале з каралём і з дваром, а таксама магнатаў і шляхту, асабліва нованаверненых пярэхрыстаў з права-слаўя ў каталіцызм, а такіх, дзякуючы дзейнасці баевікоў з арміі Прасвятога Сэрца Ісусавага, увесь час прыбывала.

У змаганні супраць праваслаўнае Царквы ўсім яе непрыхільнікам выдатна дапамагала спрадвечнае права пануючых да „падавання хлябоў духоўных". Справа ў тым, што пануючыя ў Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім адно толькі ў адносінах да праваслаўнай Царквы карысталіся правам надаваць годнасці і маёмасць епіскапам, архімандрытам і ігуменам, а за прыкладам каралёў і князёў магнаты і шляхта прысвоілі сабе права назначаць у манастыры і цэрквы, што знаходзіліся ў іхніх уладаннях, ігуменаў, свяшчэннікаў, дыяканаў. Гэта былі незаконныя, злачынныя дзеянні, бо яшчэ I Усяленскі сабор у 325 г. пастанавіў, што епіскапа назначаць могуць толькі епіскапы, а зацвярджаць яго — мітрапаліт. VII Усяленскі сабор у 787 г. пастанавіў: „Усялякі выбар у епіскапа або прэсвітэра або дыякана здзейснены свецкімі ўладамі няхай будзе нядзейсным". Але ў Польскім Каралеўстве і Вялікім княстве Літоўскім гэтыя законы спрадвечна не браліся пад увагу, асабліва ў часы „залатой шляхоцкай вольнасці" ў XVI—XVII стагоддзях. Давяло тое да глумлення і здзекаў над праваслаўнай Царквою, бо за розныя свецкія паслугі або за хабары каралю і яго прыбліжаным часта епіскапамі, архімандрытамі, святарамі станавіліся асобы недастойныя займаць нават якія-небудзь грамадскія пасады: ашуканцы, авантурысты, п'яніцы, а нават крыміналісты. Такім чынам каралі і вялікія князі ўвесь час спіхвалі праваслаўную Царкву на ганьбаванне, кампраметаванне, паніжэнне ў вачах усяго грамадства.

Дзеля канчатковага затаптання праваслаўнай веры і Царквы ды апраўдання свае агрэсіі каталіцкі Касцёл у Польшчы і Вялікім княстве Літоўскім разгарнуў паўсюдную агітацыю, вялікімі тыражамі выйшлі варожыя праваслаўю брашуры Бенедыкта Гэрбеста „Sentencje wiary Kościoła rzymskiego i historia greckiego zniewolenia dla jedności", Пятра Скаргі „O rządzie i jedności Kościoła Bożego pod jednym pasterzem i o greckim od tej jedności odstąpieniu" і мноства іншых. Гэтаму беспардоннаму ідэалагічнаму наступу давалі адпор праваслаўныя публіцысты Герасім Сматрыцкі ў кнізе „Ключы Каралеўства Нябеснага", Васіль Астрожскі ў „Адзінай веры", а таксама іншыя. Але наступленне каталіцызму толькі пачыналася.

МІКОЛА ГАЙДУК

Якія мы людзі

# СВАЕ ДЗЕЦІ, СВОЙ ДОМ

Адам. Найлепшы сын, якога сабе можна толькі ўявіць бацькам. Добры, працавіты, спагадлівы, жыццярадасны. Прыгожы. Ветлівы. Ашчадны, але не скупы. У школах яго хвалілі, з арміі бацькам прысылалі падзякі, на працы паважалі і павышалі. Кожныя выхадныя дні ды святы бацькам на гаспадарцы дапамагаў. Ї так гады хутка ляцелі, трыццатка стукнула. Не абзавёўся сям'ёю, хоць неяк гэта дзіўна — прыгажун, якіх мала, і апрануцца меў за што, і машына ў яго свая, і танчыць ці не найлепш ва ўсёй гміне... Што якую паненку спаткае — то тая ў горад прэцца, кажа — не будзеш усе святы калупацца ў бацькоўскай зямлі, то зноў на каталічку трапіць, і не ў смак гэта Адамавым бацькам, што не свая, а ейным, што кавалер „кацап"... А ў самым Беластоку чым Адаму паненку прыцягнуць? Пакойчыкам на двое ў рабочым інтэрнаце?! Як у такіх умовах думаць пра сям'ю! Праўда, Зінка ды Коля кожнаму з дзяцей уплацілі поўныя ўклады на кніжку на кватэры, ды і сам Адам працаваў у будаўніцтве, то нейкая на-дзея на сваю хату была, але колькі год трэба было чакаць у чарзе!

На забаве ў гмінным мястэчку аднойлетняй ноччу шалела паненка з Беластока, выпускніца ліцэя. Людзі не маглі проста адарваць ад яе вачэй, так танцавала! З твару, праўда, не залішняй красы, але стройная, як іва. Адам быў ёй добрай парай. Калі селі ахаладзіцца „пепсі", пазнаў у Еве нядаўнюю апісяную госцю з Беластока, што да бабы прыязджала ў іхнюю вёску і гуляла ў пясочку пад хатай, калі ён канчаў пачатковую школу. Бацькі штогод высылалі малых у Каўпакі, а самі перліся ў адпачынак у заморскія краі. Абое адукаваныя былі бацькі ў Евы, стары ў дырэктарах, маці педагог. Свае людзі, праваслаўныя беларусы... Зараз жа Адам павёз сваю Еву ў вёску, з бацькам схапілі пляшку і памчаліся да Евінай бабы ў сваты. Уся вёска збеглася, такі баль зрабілі. А праз тыдзень пайшлі ў Беласток запісвацца на чаргу на шлюб.

Вяселле было праз месяц. Праўда, Адамаў дзядзька зняў у туалеце маладую ў задзертай белай сукенцы з кален вясковага казановы, але мацеркі справу замазалі.

Пасяліўся Адам у Евіных бацькоў у маленькім пакойчыку, аўто паставіў пад блокам. Цесці на яго не наракалі — спакойны, гаспадарлівы, ад бацькоў усё цягне, добрага слова не шкадуе. Хай і жыў бы разам з імі, у цеснаце ды не ў крыўдзе, толькі што Ева, злосная, як аса, усё кідалася і да яго, і да бацькоў, спакою не было. Думаў Адам — цяжарная, пэўна, таму ўсё яе раздражняла. Ляскае дзвярыма, б'е посуд, верашчыць амаль не *пэнкае*, што грошай мала ёй дае... Сама ніколі не працавала, бо ж адразу пасля „матуры" замуж выскачыла, то і таму граша не мела ў цане. Амаль усю мужаву зарплату аддавала на шматкі і касметыку. Калі Адам сказаў, што грошы будзе ёй выдзяляць — не будуць жа прасіцца ў бацькоў есці, Ева кінулася ніц на падлогу, білася рукамі ў жывот, рвала валасы з галавы, і завішчала так, што прыбеглі яе брат і бацька і накінуліся на Адама — ратаваць бедную. Так пабілі, што вызвалі скорую. Праз пару дзён Адам пайшоў, з пераламанай рукою, увесь у бінтах і сіняках, да свайго дырэктара: дапамажыце, дарагі шэф, дайце кватэру, столькі гадоў ужо ашчаджаю, беззаганна працую столькі гадоў, не магу так больш жыць, паглядзіце, што са мною зрабілі! Дырэктар, які ведаў Адама яшчэ як найлепшага вучня „будаўлянкі" і выдатнага спецыяліста і чалавека, згадзіўся пастарацца. А мог нямала — праз пару дзён Адам атрымаў трохпакаёвую кватэру ў „суровым стане". Бацькі толькі мусілі ўплаціць ашчаднасці ўсяго жыцця, прывезці з вёскі мэблю (Адам, на шчасце, купіў яе яшчэ перад усімі падаражаннямі). Усё паставілі, паскручвалі, як трэба. Ева, надзьмутая, пазірала з канапы; у яе шостым месяцы нельга было да чаго-небудзь дакранацца.

Ї далей да нічога не дакраналася. Раніцай Адам звык рабіць сняданак і несці ёй у ложак. Так было наступныя пяць гадоў. Пакупкі, абеды, вячэры — справа мужа. Ї грошы на ўтрыманне. Ї пялюшкі, і кашкі, і прагулкі з малымі. Нарадзіла Ева свайму Адаму двое — хлопчыка і дзяўчынку. Суседзі ніколі яе адной з імі не бачылі на вуліцы ці ў агародчыку перад блокам. Што рабіла дома, хто яе ведае. Ні пашые, ні зварыць, ні якую кніжку прачытае. Дзеці раслі прыгожыя, спакойныя, рахманыя. Галоўнае, што здаровыя. Упадзе малое, паб'е ножку, маці нават вухам не варухне: хай паплача, ад плачу яшчэ ніхто не памёр. Над унучкамі трэслася асабліва баба Зіна, усё з вёскі везла для іх вітамінкі, худое мяска. Вядома, хацелася ёй ад нявесткі пачуць добрае, удзячнае слова, каб не бурчала на яе, як на сваю матку і не папракала, што сама на свет не прасілася. Але ўрэшце не вытрымала: калі баба Зіна звярнула нявестцы ўвагу, што замест да абеду качацца ў пасцелі магла б пайсці ў краму ці адправіць малых у садок, а не чакала, каб усё зрабіў муж, тая сарвалася з ложка і паказала пальцам дзверы:

— Вон з мае хаты! Каб нага твая тут не пастала!

— Гэта твая хата? — наліўся чырванню Зінчын твар. — Пальцам аб палец не стукнеш, дзяцей як трэба не гадуеш, толькі валэндаешся па дварах!

— Мама, не крычыце на Еву, не палохайце малых, — ціха папрасіў Адам. — Гэта нашая справа.

— Якая „вашая справа"? Мне сэрца баліць, што ўзяў ты такога паразіта! Адпраў гэтага дармаеда на якую працу! Хопіць дарам хлеб есці!

Праўда, спрабавала Ева ўзяцца за нейкую працу. На чатырох месцах працавала поўных дванаццаць дзён. Урэшце, знікла з дому. Вярнуўся Адам з працы, а малыя галодныя, брудныя, галосяць так, што з першага паверху чуваць. Суседка ўжо думала дзверы ламаць з жалю. Паехаў Адам да цесцяў, думаў, што жонка забрыла туды.

— Дарагі зяцю, гэта твая справа. Шукай яе, калі яна табе патрэбная. Аддалі мы бяду з хаты, і не непакой нас цяпер, — сказала Ганна. — Ты муж, ты павінен яе трымаць моцна. Мы на яе сілы не мелі. А калі ты такі разява, то маеш, што хацеў. Трэба было яе адразу зацугляць. Старэйшы, думалі, разумнейшы...

— Хіба ж мне яе біць! — расклаў рукі Адам. — Што дзеці падумалі б!

— Біць не біць, — усміхнуўся цесць, — але трэба ўмець запанаваць над бабай, бо пойдзе па руках, а цябе паважаць не будзе.

Ева вярнулася праз два тыдні. Паехала была ў Бяшчады са студэнтамі. Адам нічога не сказаў. Дзецьмі займалася днём суседка, у якое былі свае малыя. Не мог жа кінуць працы, трапілася яшчэ і добрая прыватная халтура, а малыя ў садку пачалі хварэць.

Аднойчы на зазімку вярнуўся Адам падвечар дадому. Хата была пустая. Ад дома вёў след саначак. „Пэўна, пайшла з малымі на ўзлесак" — падумаў і пайшоў іх сустракаць, прыхапіўшы кавалак хлеба з каўбасай, бо галодны быў як воўк.

На санках сядзеў малады мужчына ў кажушку. Саначкі цягнула Ева, смяялася. Малыя беглі побач. Адам стаў як укапаны.

— Адам, хачу прадставіць табе Пятра. Мы кахаем адзін аднаго. Сустракаемся ўжо тры месяцы, — сказала спакойна Ева. — Табе раю, каб ты знік з маіх вачэй, пакінуў нам хату. Спаткаемся ў судзе. Не хачу, каб ты бачыўся з дзецьмі. Суд акрэсліць, колькі табе на іх плаціць.

— А дзе ж ты такога „прыгажуна" спаткала? — засмяяўся цераз сціснутае горла Адам.

— А хоць бы і на прыпынку. А ты глядзі, не „пыскуй". Дзяцей табе не аддам, заўсёды іх суды аддаюць маці. Хату нам таксама пакінуць, бо дзеці будуць са мною, а ты можаш ісці жыць у свае Каўпакі, на гаспадарку да бацькоў, ты свой гной любіш больш чым мяне...

— Ну не, гэтага ўжо замнога! — схапіў жонку за каўнер Адам. — Хопіць нахабства!

— Петрусь, ратуй мяне ад гэтага дэгенерата і хама! Вось бачыш, што я мушу пераносіць з ім? Б'е мяне! Толькі ты мяне разумееш!

Толькі трохі патузаліся тады Адам з Евіным каханым.

Развод далі ім хутка, адразу — Ева была цяжарная. Праўда, не заплаціла тады ў судзе за дакументы, не памятала пашпарта, і дзіцё, дзяўчынку, запісала на прозвішча былога мужа. Яшчэ да рашэння суда забрала ўсю мэблю і аўтаматычную пральку з дому. Пакінула, дарэчы, тое, што не магла адкруціць ці вырваць са сцяны. Пераехала з дзецьмі жыць на Беласточак. Хацела адабраць у Адама бацькоўскія правы, чым рассмяшыла суддзю. Адам меў права наведваць сваіх патомкаў калі хацеў і мог. Да часу, пакуль Евін муж на пачаў яму біць у зубы.

Купіў Адам са сваімі бацькамі новую мэблю, дываны, пасцель... Пачаў сустракацца з дзяўчынай. Згадзілася пайсці за яго замуж, але баялася крыху. Двое дзяцей — гэта не жарты, трэба іх будзе пакахаць як сваіх. Рашылі да шлюбу жыць разам. Не мог, аднак, прапісаць яе Адам у сваёй кватэры — Ева перасялілася толькі часова і пакінула ў адміністрацыі засцярогу, што былы муж не мае права пасяліць у сябе каго-небудзь. На новай кватэры мела праблемы з аплатай за памяшканне — ні муж, ні яна сама не працавалі, практычна ў пяцёх жылі на Адамавы аліменты. Калі Адам паехаў працаваць у Беларусь, узламалася ў сваю былую кватэру. Зінка прыехала ў Беласток на інвалідскую камісію, зайшла ў сынаву хату. Замкі былі зменены. У хаце, на канапах, да якіх даклала свой апошні грош, качаўся муж Евы са сваёй малой дачушкай.

— Што вы тут робіце, калі гаспадара няма дома? — залямантавала Зінка. — Як ты, сучка, пасмела сюды іх прывесці! Кінула будку, то чаго цягнеш сюды сваё шчаня і новага кобеля? А ты што, багатыр, не можаш забяспечыць кватэры сваёй сям'і? Ні гонару ў цябе няма, ні сумлення!

— Гэта кватэра маёй жонкі, — падняўся Яноўскі з канапы, пачухаўся пад цяльняшкай у валасатыя грудзі. — Яна мае больш правоў на яе, чым твой сын, бо ў яе дзеці. Суд ёй іх даў на выхаванне. На гэта ёсць у яе паперы.

— Ї я гэтую хату ад яго адсуджу! — прыбегла з кухні Ева. — Мне мая адвакатка сказала, што за тое, што я з ім нажыла, належыцца мне палова хаты. Я грошы дастану хоць з пекла. А ты, старая малпа, не совай нос у мае справы, бо з табою яшчэ палічымся!

Ї выпхнулі Зінку на лесвічную пляцоўку, аж паляцела сваім грузным целам тры паверхі ўніз.

Зноў змяніў замкі Адам. Ї зноў узламалася ў хату ягоная былая жонка. У паліцыі сказалі адчаянаму Адаму, каб *даў спокуй* і не марнаваў грошай. Падаў Адам у суд просьбу яму аддаць дзяцей на выхаванне — усе суседзі сведчаць, што б'е іх „новы" бацька, а маці аднясіцца без чуласці, не дбае, як павінна. Суд, аднак, зноў рашыў, што больш карысна для псіхікі дзяцей, калі яны будуць з маткай, у якой больш часу на выхаванне па прычыне беспрацоўнасці...

Завуць іх у суд досыць часта. Закінула Ева Адаму, што з-за недагляду бацькам малое ў пясочніцы Ганя набралася нейкай хваробы. Значыць — кепскі ён бацька. Ї хоча сваю частку кватэры, калі не можа забраць у яго ўсяе. Перавезла зноў сюды ўсю мэблю, апрача пралькі. Спачатку зранку разам з ежай, з Ганяй, Костусем, малой Клаўдзіяй і Яноўскім прыязджалі на ўвесь дзень, а падвечар ехалі начаваць у наняты пакой на Беласточку. Вядома, у трохпакаёвай кватэры большая выгада, тым больш што Адам сыходзіў на-досвітку на працу, вяртаўся падвечар. Асабліва калі за гэтую кватэру плаціць не трэба. Адам пратэставаў — адразу ўзраслі аплаты за электрычнасць і ваду. Ева навучыла Ганю называць бацьку проста Адамам ці Мікуцкім, а Пятра Яноўскага „татам". Костусь пайшоў у школу, разумеў намнога больш, чым малая, перажываў усё страшэнна — такое сумнае дзіця з вялікімі спужанымі вачыма. Не натузаўся Адам з дзікім кватарантам у сваёй кватэры — сябры Яноўскага, якіх той запрасіў на імяніны, выбілі яму тры пярэднія зубы. А цяпер вось Ева прапісалася сюды разам з усімі дзецьмі, Яноўскі адчувае тут сябе, як у сваёй хаце. Рахунак за кватэру павялічыўся да аплат за пяць асоб. Адам плаціць толькі за сябе, і доўг у адміністрацыі ўзрастае. Усе суседзі бачаць, колькі асоб у сапраўднасці тут жыве, і хто тут гаспадар.

— Я цябе і так адсюль выкуру, прыдурку! Бачыш жа хіба, што мне не дасі рады? — узвіваецца Ева. — Чаго ты тут усё сядзіш? Я на тваім месцы ўцякла б ужо ў вёску!

Адам усё ходзіць па судах, выдае грошай на гэта нямала. Ева толькі хоча, каб больш плаціў на дзяцей. А ён хоча мець толькі шчаслівы дом, уласных дзяцей, спакой. Але колькі можа быць сілы ў Адама? У беластоцкім Сямейным аддзеле суда прападаюць, напрыклад, некаторыя дакументы. Чаму яны знікаюць тады, калі патрэбныя? Розныя цуды бываюць у беластоцкай Феміды, служкі Справядлівасці.

Костусь пойдзе ўжо ў другі клас. Рахманае, прыгожае хлапчаня. Толькі вочы ў яго нейкія спужаныя, адчайныя. Хоча быць з татам, і ёсць з ім кожны дзень. і бачыць, як яго трактуюць. Ї маму хацеў бы кахаць. Мама не можа ж быць дрэннай. Але мама нічога не кажа, калі іх папракае ці сцябае Яноўскі. Пэўна, ён тут найважнейшы, гэты чужы чалавек, які забраў ім маму. Яны такія шчаслівыя разам... Маюць жа правы на шчасце. А Костусь быў у вёсцы ў бабы Зіны і дзеда Колі, разам з Ганяй. Цэлы-цалюткі тыдзень. Навучыўся кіраваць вялізным трактарам, які яго слухаў і ехаў, куды Костусь захацеў.

**МІРА ЛУКША**

*P.S. Імёны і прозвішчы герояў і назвы раёнаў горада зменены.*

*Лісты Адаму ад чытачоў перадамо.*

# ПАРАДЫ ГАСПАДАРАМ

**Як саліць мяса**

Да найбольш распаўсюджаных спосабаў захоўвання добрай якасці мяса залічваем саленне. Мяса соліцца ў спецыяльна падрыхтаваных пасудзінах. Могуць гэта быць альховыя або дубовыя бочкі, цабэркі або каменныя пасудзіны. Як бочкі, так і каменны посуд павінны мецъ накрыўкі, якія забяспечваюць мяса ад мух і пылу. Перад саленнем мяса пасудзіны неабходна вымыць, выпарыць і высушыць на паветры.

Неабходна памятаць, што мяса захавае добры смак толькі пры адпаведнай колькасці солі. Перасоленае мяса вымагае доўгага вымочвання, што змяншае яго пажыўную якасць. На 10 кілаграмаў мяса даем прыкладна 600—700 грамаў солі. Апрача солі дадаем прыправы – перац, лаўровы ліст, сушаныя ягады ядлоўцу. Прыправы змешваем з соллю.

Для захавання адпаведнага колеру да солі дадаем салетру: 20 грамаў салетры на 10 кг мяса.

Перад саленнем мяса неабходна добра выстудзіць. Пры пасолцы вялікіх кавалкаў, напрыклад, шынак, неабходна вялікім нажом аддзяліць мяса ад косці і ў адтуліны насыпаць солі.

Мяса соляць двума спосабамі: насуха, або залІваюць салянкай. Насуха соляць мяса, прызначанае да даўжэйшага перахоўвання.

Мяса націраюць соллю з прыправамі раўнамерна з усіх бакоў, пасля чаго укладваюць у пасудзіну так, каб шчыльна да сябе прылягала. На верх кладуць накрыўку, якую навальваюць каменем і накрываюць чыстым палатном.

Пасудзіну з мясам перахоўваюць у месцы, дзе тэмпература не можа быць вышэй 10 градусаў цяпла.

Для захавання раўнамернасці пасолкі мяса абліваць не часцей як праз дзень атрыманым ад солі сокам. Накрыўку неабходна прамываць у вадзе.

**Як вэндзіць мяса і мясныя вырабы**

Вэнджанае мяса даўжэй захоўваецца, набірае адпаведнага запаху і смаку.

Мяса і мясныя вырабы, прызначаныя да даўжэйшага захоўванння, вэндзіцца паступова. Такое вэнджанне засноўва-ецца на адпаведнай абсушцы мяса, а пазней на паступовым давэнджванні на працягу 12—14 дзён у халодным дыме. Вэндзім мяса ў спецыяльна падрыхтаванай вяндлярні.

У вяндлярні мяса і мясныя вырабы ўмяшчаем так, каб паасобныя кускі не дакраналіся адзін да аднаго і не награваліся ад агню.

Найлепшым апалам пры вэнджанні з'яўляюцца галіны свежага ядлоўцу, дым якога надае мясу цёмны колер і прыемны пах. Апрача ядлоўцу можна ўжываць альховыя, дубовыя і буковыя дровы; не надаюцца да вэнджання сасновыя дровы, якія маюць шмат смалы.

Распальваючы прызначаны апал, стараемся атрымаць як найбольш дыму. Распаленага агню нельга пакідаць. Вэндзім прыкладна кожны дзень па 2 гадзіны. Вэнджанае мяса неабходна старанна абкруціць палатном і перахоўваць у сухіх памяшканнях.

**ЯСЕНЬ**

## З КУФЭРКА БАБУЛІ НАДЗЕІ

*(працяг; пачатак у 21, 31, 33—34 н-рах)*

**5**

Надзея Руско з Белавежы асабліва шмат запамятала прыпевак. Спявалі іх на вяселлях, у гасцях за святочным сталом, на „кудзельках" — да і пасля І сусветнай вайны.

**1.**

На пачэ лахачэ,<br>на прыпачку гусі,<br>прыскакаў, прыгуляў<br>казак да Марусі.<br>Я ў Марусі начаваў,<br>я ў Марусі ўпіўся,<br>я ў Марусі на ложачку<br>шапачку забыўся.

**2**

Ой, выпіла, выпіла.<br>Сама сябе пахваліла,<br>бо я добрага роду,<br>п'ю гарэлачку як воду.

**3**

Ой, паслала мане маці,<br>той і ў поле жыто жаці.<br>А я жыто не жала,<br>ў баразёнцы ляжала.<br>Баразёнка узенька,<br>не памесцімса,<br>ой, ночка каротка,<br>не пацешымса.

**4**

Ад парога да парога,<br>чаравічкі папарола.<br>Ад кутка да кутка,<br>чаравічкоў ні куска.

Запісаў **ПЁТР БАЙКО**

# ГАРАСКОП ДРУЇДАЎ

**7**

ВЯРБА, *(1—10 сакавіка, 3—12 верасня).* А ў полі вярба, — спяваем. Ды ўсё ж лаза, ракіта, вербалоз схіляюцца-гнуцца па-над вадою. Ад старадаўняга індаеўрапейскага слова *уэрбас* — гнуць, віць — і пайшла, лічаць, назвы вярба. Яе род мае каля 170 відаў, з якіх 20 растуць у Беларусі. Нашы продкі даўно заўважалі надзвычайную жывучасць вярбы. Нездарма, відаць, менавіта вярбою выганялі першы раз у поле кароў. Паганскую моц вярбы не змагла перамагчы нават царква і свянцяцца яе галінкі перад „Вялікім днём".

Кельцкія жрацы-друіды ўбачылі падабенства ў прыродзе вярбы і ў характары людзей, якія нарадзіліся ў першыя дзесяць дзён сакавіка (пачатак новага года па календары старажытных славян) і 3—12 верасня. Вярба ўяўлялася ім паэтычнай асобай: зменлівай, капрызнай, задумлівай, цалкам залежнай ад настрою. А таму вярба — не найлепшы спадарожнік у жыцці. Да таго ж яна не прызнае кампрамісаў. Калі-нікалі вярба здаецца нам безабароннай, бязрадаснай, але гэта толькі зман, бо яна добра ведае, чаго хоча. І дамагаецца ўсімі спосабамі, нават спрабуе падмануць альбо выдурыць, выдаючы сябе за пакутніка. Людзей уражвае меланхолія вярбы, якая прагне кахання, але ж прагне, каб для яе ахвяравалі сабою. Існуе нават выраз „чалавек вярбовага сэрца" — той, што лёгка можа закахацца.

*(працяг у наступным нумары)*

# ВІРАВАНКА




1. кавалак бервяна, 2. на шы, 3. зямля засаджаная агароднінай, 4. возера ў Карэліі, 5. рыдлёўка, 6. пасудзіна для кармлення жывёлы, 7. напрыклад, капітан, 8. большы ад кладкі, 9. белая вадкасць, 10. стан вяласці, санлівасці, 11. кавалерыст, 12. японскае адзенне.

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 28 н-ра:**
**Гарызантальна:** камора, Бамака, Дамаск, дама, паля, чацвярціна, Леда, мама, Савана, дарога, Сахара.
**Вертыкальна:** калода, рада, баск, казуля, махлярства, Мачада, панама, лебяда, матура, сага, Наса.

Кніжныя ўзнагароды высылаем Аляксандру Дабчынскаму з Беластока і Пятру Байко з Белавежы.

# ПАМЯТАЕШ, СЫНКУ...

Прыехаў Косця „фордам" наведаць бацькоў.

— Ты купіў сабе такую дарагую машыну? — здзівілася маці.

— Чаму тут дзівавацца, — усміхнуўся бацька. — Жонка і сын у Амерыцы, долары шлюць, сам не п'е, то купіў сабе такое аўто.

— Глянь ты, як той час хутка бяжыць! Нядаўна выехаў у Шчэцін, а ўжо на пенсіі, сам двух унукаў мае.

— Так, толькі ж так далёка яны, і Косця далёка...

— Што там адлегласць — пошта ж працуе, тэлефоны.

— Усё ж, не тое, калі разам, блізка. Здаецца, нядаўна і Надзя з Андрэем і Міляй толькі што паехалі ў тую Амерыку, а ўжо ж гэта — пяць гадоў!

— Трэба было і табе ехаць.

— Ну не, што ты. Мне тады, як ехалі за доларамі, было толькі два гады да пенсіі. Цяпер жа Надзя не вернецца, пакуль там да пенсіі не даробіцца, бо тут так хутка працы не дастане. Цяпер інакш, чым за „камуны", што працу раз-два знойдзеш. Мяняюцца ўрады, мяняюцца людзі...

— Вой! Яшчэ і як змяніўся народ! Калісь былі нейкія дружныя. Адзін з адным размаўлялі. Цяпер то не, не вельмі. Хіба перасталі чалавек чалавека любіць? Памятаеш, сынку, як мы конную касілку куплялі? Здавалася, што няма работы пры жніваванні, бо што там, так хутка збягуцца людзі, снапы хуценька пазвязваюць, ляшкі паставяць. Пагутарым, пасмяемся, паспяваем... Весела было, не?

— Памятаю, чаму ж не. Я ж сам памагаў Андрэевым, а яны прыйшлі да нас, так жа было і з Шурыкавымі, і Сцяпанавымі...

— Ужо Ванькі і Андрушы „Круцеля" няма ў жывых. Жонкі ўдовыя, а бацькі, вось, жывуць! Мрэ малады народ. Мусіць, таму, што калісь елі ўсё натуральнае, то і жылі даўжэй.

— І зайздросныя сталі. Калі ў цябе ёсць штосьці лепшае, чым у суседа, гатоў цябе ён задушыць! А твая бяда яго толькі ўцешыць. Ці пазычыць табе ён машыну, калі твая папсуецца?

— Так, людзі цяпер багатыя, але не лепшыя. Ты, сынку, „фордам" ездзіш, але весялосці ў табе, нябось, я не бачу. Прыйдзеш дадому, і што маеш — толькі сцены, рэчы і сябе, самотнага...

**АЎРОРА**

# „ПЯЦІГОДКА"

Так пасля вайны называўся звычай пакарання старэйшымі кавалерамі непакорных дзяўчат. Калі на забаве дзяўчына адмовілася танцаваць з кавалерам, нешта яму непрыемнае сказала ці паставілася да яго ганарыста, хлопцы такую штрафавалі: пяць гадоў дзяўчына не мела права прыходзіць на ніякія забавы, вяселлі, гульні. Ніхто не меў права дружыць з ёю і ўсе цураліся яе, быццам буслы свайго хворага сябра, які не ў змозе ляцець у далёкую Афрыку. Наогул „пяцігодка" датычыла толькі прыгожых дзяўчат, якія фанабэрыста ставіліся да сыноў заможных бацькоў; „барахло" не лічылася, ці хлопец гэта быў, ці дзяўчына. Пераважна аднак „пяцігодка" канчалася мірам: бацькі пакаранай дзяўчыны запрашалі „пакрыўджанага" і яго сяброў у сваю хату і там, калі самагонка лілася як вада, адны другім выбачалі і дзяўчына, „ачышчаная" водкай, зноў магла далучацца да свае кампаніі.

У маім кавалерстве звычай гэты ўжо не практыкаваўся.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**





"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові́ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1995 r. upływa 20 listopada 1994 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## ПІШУ ЯК ЖЫВУ

*(вынятка з кнігі)*

* * *

У Альбуці на мосціку стаіць рэспубліканская дамачка, вельмі адказная за росквіт нацыянальнай культуры. Грацыёзна абапершыся на жэрдачку-парэнчу, у паэтычным настроі гаворыць:

— Тут жа калісьці была крынічка. Ї Колас пісаў. Памятаеце: „Цякла тут з лесу невялічка, травой зарослая крынічка?" Дзе яна, таварышы?

Музейны работнік, вясёлы філолаг, таксама цытуе:

— „Але ступіў тут бальшавік — ён змяніць гэты край!.."

Недаўменне, амаль абурэнне:

— Вы што?!

— А нічога. Купала, „Над ракою Арэсай".

У падтэксце, вядома, асушка.

**ЯНКА БРЫЛЬ**

## ПАРАДЫ МАЛАДОМУ КІРАЎНІКУ

Калі ласы ты да ўлады,
Калі вострыя на язык,
Вока маеш на пасаду,
Не сіпі, як той індык.
Круглашчокую кабету
У сакратаркі падбяры,
Каб цвіла, як ружа летам,
Каб душэўны быў парыў.
Сеў начальнікам у крэсла,
Дык варон ты не страляй,
Ї глядзі, каб не занесла...
Дурня ў крэсле не зваляй.
Чарку пі, але з аглядкай:
Трэба ведаць, выпіць з кім,
Ї закусвай для парадку —
Завядзі звычай такі!
Калі ты даваў узяткі,
Дык не грэбуй, як даюць,
Ды не будзь на іх ты падкі...
Бо надарыцца — паб'юць,
А зайздроснік завядзецца —
Палысець, брат, давядзецца.
Я пішу, бо вопыт маю —
Бітым быў я, і не раз,
Дык віншую і жадаю:
Ну, кіруй! У добры час!

**ЛЯВОН АНЦІПЕНКА**

## СЕНТЭНЦЫІ

Бяда горкая. Гэта не значыць, што багацце павінна быць салодкім.

* * *

Ад утомленасці і вада мутнее.

* * *

Таго, што вочы бачаць, вушы не мусяць чуць.

**БАРЫС РУСКО**

Мал. І. Смірнова

# НІЎКА

Мал. А. Каршакова

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

*(працяг; пачатак у н-ры 40 за мінулы год)*

### ІСТОТЫ-ЛЮДАЖЭРЫ

#### ВАВЁРКА-ВАНТРОБНІЦА

Аднаму маладзёну вельмі не пашанцавала ў жыцці: колькі гадоў таму яго заспеў у адным ложку са сваёй жонкай хірург... Натуральна, першым памкненнем зняважанага ў лепшых пачуццях мужчыны было адрэзаць маладзёну чэляс, але вялікая жонка, стоячы на каленях, угаварыла доктара не рабіць гэтай аперацыі, і таму хірург, які бязмежна кахаў жонку, абмежаваўся тым, што вострым скальпелем адсек небараку рукі і ногі.

Пасля такой нечаканай ампутацыі пазбаўлены догляду маладзён трапіў у дом інвалідаў, дзе, не маючы магчымасці весці звыклы лад жыцця, у жальбе і самоце, завёў сабе сяброўку — прывабную, спрытную і ласкавую вавёрачку. Кемлівы звярок за кароткі час прывучыўся выконваць усе натуральныя патрэбы гаспадара: сваімі невялічкімі пяшчотнымі лапкамі грызун даставаў з пачка цыгарэты, шчоўкаў запальнічкай і падносіў агеньчык маладзёну, а па начах залазіў пад коўдру й маленькім шорсткім языком казытаў эрагенныя зоны інваліда, дазваляючы таму адчуваць сябе паўнавартасным чалавекам. А разамлелы ад шчасця маладзён зноў і зноў перажываў ва ўспамінах тыя незабыўныя імгненні, калі раскашаваўся ў хірургавым ложку...

Між іншым, пазбаўлены канечнасцей небарака прывучыў сваю бухматую сяброўку набіраць нумар тэлефона былой каханкі. Аднойчы тая, зразумеўшы сваю віну перад інвалідам, прыйшла ў адведкі. Вавёрка, адчуваючы сябе пакінутай, са скрухай у маленькіх і бліскучых ад слёз, бы пацеркі ружанца, вачах, сядзела на падваконні і глядзела на тое, як хірургава жонка мералася прыладзіцца да ніжняй часткі тулава гаспадара. Не вытрымаўшы дакору маўклівага позірку, маладзён неразважліва крыкнуў вавёрцы: "А пайшла ты ў дупу!.." Тая, радая, што зноў хоць для нечага патрэбная гаспадару, імгненна кінулася выконваць ягоны загад — праз колькі секундаў бухматы грызун схаваўся ў анальнай адтуліне зніякавелай кабеты.

Як вядома, гэтыя звяркі вызначаюцца адмысловай вастрынёй зубоў; карацей кажучы, покуль жанчыну давезлі да стала мужа-хірурга, вавёрка выела ўсе вантробы...

На жаль, небарака-вавёрка, падавіўшыся камянём з нырак, загінула; а хірург, каб мець хоць нейкую памяць па жонцы, злупіў з вавёркі скуру і прыбіў да сцяны над ложкам спачывальні...

А таму, звяртаючыся да сяброў і, асабліва, да сябровак з усялякімі просьбамі, варта мець на ўвазе, што трэба дакладна фармуляваць пажаданні, не пакідаючы магчымасці для двухсэнсоўных інтэрпрэтацый...

*(працяг будзе)*
*Падрыхтавалі*
**ФРАНЦІШАК ХЛУС і МАРЦІН ЮР**

## СМЕХ У САНАТОРЫІ

Двух мастакоў хваляцца, які з іх лепш малюе карціны.

— Калі я аднойчы намаляваў зімовы пейзаж, то гледачам аж зубы ляскалі ад холаду, — сказаў адзін.

— Гэта яшчэ нічога, — гаворыць другі. — Калі я намаляваў сабаку, то ўласніку галерэі ўся каўбаса прапала.

* * *

— Хацеў бы я мець столькі грошай, каб купіць сабе жырафу.

— Навошта табе жырафа?

— От, так сабе. Я хацеў бы проста мець столькі грошай.

* * *

— Што такое вяршыня скупасці?

— Знайсці на вуліцы пластыр ад мазалёў і купіць з-за гэтага чаравікі на нумар меншыя.

* * *

— Які прыгожы сабака! Ці ёсць у яго сваё генеалагічнае дрэва?

— А навошта яму яно. Ён карыстаецца кожным, якое спаткае.

* * *

— Тыдзень таму купіла я ў вас крэсла і ўжо яно паламалася, — скардзіцца кліентка ў мэблевай краме.

— Пэўна нехта на ім сеў.

* * *

Размаўляюць дзве суседкі:

— Ці можаце мне пазычыць паўкілаграма мукі?

— Не.

— Не маеце мукі?

— Муку маю, але не маю вагі.

* * *

Да шафёра на лясной стаянцы ў Белавежы падыходзіць незнаёмы мужчына:

— Ці маглі б вы завезці ў Гайнаўку мой плашч?

— Чаму не? А калі яго адбярэце?

— Калі дазволіце, я паеду ў ім.

* * *

— Што ты зрабіў бы, каб за левым бортам узнялася бура? — пытае капітан кандыдата на афіцэра.

— Кінуў бы якар.

— А калі б за правым бортам узнялася бура?

— Кінуў бы якар.

— А калі б перад фарштэвенем узнялася бура?

— Кінуў бы якар.

— К чорту, адкуль жа ты ўзяў бы столь-кі якараў?

— А адкуль вы бярэце столькі бураў?

* * *

— Якое падабенства паміж сонцам і цешчаю?

— Ї на сонца, і на цешчу невыносна глядзець.

Даслаў
**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## МОЛАДА, СУЧАСНА

Пакуль Анэта вучылася ў пачатковай школе, бацькі не маглі ёю нахваліцца. Спакойная, рахманая, добрая вучаніца. Пасля вясковай школы пайшла вучыцца ў тэхнікум. Там старалася не быць горшай за сябровак.

У гарадскіх дзяўчат былі свае магнітафоны з музыкай „хэві-метал". Ї прыгожая, модная вопратка. Бацькі не пашкадавалі гэтага Анэце. На канікулах тры сяброўкі з хлопцамі рашылі выбрацца „ў Польшчу". Анэцін Ярэк запрапанаваў гэта і ёй. Бацькі, аднак, і слухаць не хацелі пусціць шаснаццацігадовую дачку невядома куды. Пакуль упраўляліся з гаспадаркай, Анэта забрала грошы і ўцякла з дому.

Паехалі „аўта-стопам". Начавалі абы-дзе — у абарогах, у клунях у гаспадароў, у маладзёжных лагерах і інтэрнатах. Некаторыя шафёры аўта-машын ахвотна падвозілі сімпатыч- ную пару, але, бывала, даводзілася „галасаваць" на дарозе і пару гадзін.

Бацькі паведамілі паліцыю пра сваю „прапажу". Дзяўчыну знайшлі ў сталіцы і забралі ў паліцыйную машыну. Ярэк паехаў далей адзін. Абяцаў пісаць.

Дома бацькі ўзяліся за Анэту. Галоўнае пытанне: ці хоць не зацяжарыла?! Дзяўчына злавалася, крычала, што такіх несучасных і абмежаваных бацькоў няма хіба ў нікога ў свеце.

Ярэк не пісаў. Прайшлі канікулы. Анэта цешылася больш усіх, што ідзе ў школу. Асабліва хацелася ёй убачыць свайго каханага.

Вельмі здзівіла яе, што калі хлопец прыйшоў, нават на яе не глянуў. Падышла — адвярнуўся. Рашыла загаварыць першая.

— Чаму не пісаў? А чаму ж мне пісаць такой к..., як ты? Пра што? Няма ў нас нічога супольнага.

Увесь клас засмяяўся. Анэта з плачам выбегла.

— Пачакай, Анэта! — пабегла за ёй Юля. — Ярэк жа ідыёт! Усім расказваў, як вы кахаліся. Не пераймайся гэтым дурнем, не варта марнаваць сабе жыццё!

Мінуў верасень. Анэта з жахам не сцвердзіла ў сябе менструацыі. Найшлі яе нават думкі аб самагубстве. Рашыла, аднак, перамагчыся, расказаць усё маці.

Гінеколаг сцвердзіў трэці месяц цяжарнасці. Анэта, плачучы, сказала, што будзе нараджаць.

Не было жыцця Анэце ў класе. Найбольш дакучаў ёй Ярэк. Перайшла ў завочны тэхнікум. Вучылася вельмі добра, дзякуючы перш за ўсё дапамозе маці. Бацька не мог на яе глядзець, але калі нарадзіўся ўнучак, не сказаў дачцэ кепскага слова.

Анэта часта плача над калыскай. Асабліва тады, калі яе сябры ідуць на танцы ці вандроўку. Нічога, аднак, не павернеш у жыцці. Малога Ярка трэба неяк гадаваць, мацаваць, жыць...

**АЎРОРА**